21 сакавіка 2014 | № 11 (380)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10011

**4 ЗАБЯРЫЦЕ Ў ІХ РУСКІЯ ЛІТАРЫ!**

Адэса — ужо прыфрантавая паласа. Звычайна шматлюдны і бестурботны горад ад подыху блізкай вайны натапырыўся і спусцеў

**6 ПРАЦЭС ПАЙШОЎ, ВЫНІК НЕПРАДКАЗАЛЬНЫ**

Умяшанне ва ўкраінскія падзеі — гэта рэакцыя палітычнай эліты Расіі на перадрэвлюцыйную смуту ва ўласнай краіне

**11 ЧАМУ БЕЗ КРЫМУ УКРАІНЕ БУДЗЕ ЛЕПШ**



Шматлікія ўкраінскія палітолагі лічаць, што страта Крыму — вялікі пазітыў для Украіны. Крым на некаторы час страчаны для Украіны, і ў гэтым таксама трэба шукаць пазітыў

**14 ДУХ ЯГО НЕ ЗЛАМАЛІ**



З Віталём Губарэвічам мне давялося пазнаёміцца ў ГУЛАГу 45 гадоў таму ў пасёлку Інта Комі АССР. Нічым асабліва ён не адрозніваўся ад іншых зняволеных: той жа бушлат з нумарам на спіне, тая ж аблавушка з рознакаляровых кавалачкаў тканіны...

# Рэпетыцыя элегантнай перамогі

**Пасля выходных краіна атрымае новыя мясцовыя Саветы. Палітычныя структуры, якія скарыстоўвалі мясцовую кампанію для таго, каб пагутарыць з выбаршчыкамі, ужо адрапартавалі пра сваё перамогі.**

Сяргей ПУЛЬША




Найлепшага, бадай, выніку дамаглася кампанія «Народны рэферэндум», бо гэты вынік можна, як кажуць, памацаць рукамі. Як і планавалася, за час мясцовых выбараў было сабрана 50 000 подпісаў за правядзенне рэферэндуму па шасці вызначаных пытаннях. Варта адзначыць, што подпісы збіраліся пад зваротам да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ініцыяваць гэты плебісцыт, а значыць, згодна з заканадаўствам аб зваротах грамадзянаў, праігнараваць наогул такі вынік дэпутаты не змогуць. Ім прыйдзецца пісаць адпіскі — калі нехта не ўзгадае, што калектыўны зварот з больш чым трыццаццю подпісамі падлягае «разгляду на месцы». Праўда, наўрад ці будзе з гэтага нейкая карысць: грошай на рэферэндумы ў беларускім бюджэце на гэты год не закладзена.

Добры вынік, па меркаванні кіраўніцтва, атрымала і «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». Колькасць чальцоў аргкамітэта, па словах сустаршыні БХД Паўла Севярынца, павялічылася на сотню чалавек, і яшчэ некалькі соцень сталі «прыхільнікамі БХД». З апорай на 120 сваіх «народных дэпутатаў» БХД зараз будзе спрабаваць наладзіць «народнае мясцовае самакіраванне».

Назіральніцкая кааліцыя «Права выбару» таксама паведаміла пра прыход новых людзей праз назіранне ў актыўную грамадскую дзейнасць. Але вынікі такой дзейнасці можна будзе пабачыць толькі пасля выбараў.

Што ж тычыцца самога працэсу галасавання, то, зразумела, ён мала каго цікавіць. Тая ж БХД яшчэ ўвосень мінулага года заявіла, што беларускія выбары не з'яўляюцца легітымнымі, бо ў краіне адсутнічаюць перадумовы выбараў — свабода СМІ, свабода сходаў і асацыяцыяў, а таксама не могуць прыняць удзел у выбарах палітвязні. Прычым, як слушна заўважылі ў БХД, зараз выбарчым працэсам кіравалі не выбарчыя камісіі, як тое належыць па законе, а органы МУС.

**80%**
**грамадзян не бачаць сэнсу ўдзелу ў галасаванні**

Да аналагічнай высновы прыйшла Аб'яднаная грамадзянская партыя. Палічыўшы колькасць перашкодаў, АГП канстатавала: «Гэтая выбарчая кампанія з'яўляецца яшчэ больш бруднай, сілавой, забароннай нават у параўнанні з папярэднімі «выбарамі».

І Партыя БНФ сцвярджае, што «ўсе этапы бягучай выбарчай кампаніі сведчаць пра нязменны курс правядзення выбараў пад кантролем органаў выканаўчай улады паводле папярэдне напісанага сцэнару і з загадзя прадвызначаным вынікам. У сукупнасці азначаныя абставіны ўжо на дадзеным этапе не дазваляюць лічыць гэтую выбарчую кампанію свабоднай і празрыстай, а выбары — свабоднымі і справядлівымі».

Не верыць такім выбарам і народ. Удзельнікі кампаніі па выніках збору подпісаў, абыходу кватэр ды агітацыі заўважаюць: пайсці на выбарчы ўчастак жадаючых амаль няма. Апытанка парталу tut.by (прагаласавала больш за 30 000 чалавек) сведчыць: удзельнічаць у галасаванні маюць намер толькі 17,71% апытаных. 61,96% канстатавалі, што не будуць браць удзел у галасаванні, а пад варыянтам «Якія выбары?» падпісаліся 19,83%. Такім чынам, каля 80% грамадзян не бачаць сэнсу ўдзелу ў галасаванні.

Усё гэта было б весела, калі б не было так сумна. Бо, як мяркуюць аналітыкі, мясцовыя выбары — гэта маленькая рэпетыцыя прэзідэнцкай кампаніі, якая мае адбыцца ў Беларусі ў 2015 годзе. На мясцовых выбарах зараз «адточваюцца» магчымыя сцэнары і навацыі прэзідэнцкіх выбараў. У прыватнасці — навіны ў заканадаўстве па забароне байкоту выбараў, па правядзенні перадвыбарчых пікетаў выключна на выбарчую тэму, новыя правілы стварэння агітацыйнай прадукцыі і гэтак далей.

Сапраўды, кажа палітолаг і юрыст Юры Чаўсаў, гэтая мясцовая кампанія ўпершыню праходзіць па правілах, прынятых зменамі ў Выбарчы кодэкс увосень 2013 года. «Але гэтыя змены тычацца, найперш, парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў», — нагадвае ён.

«Варта зазначыць, што хада мясцовай кампаніі ў нечым перадвызначае новыя тэндэнцыі ў правядзенні выбараў. Напрыклад, абмежаванне тэматыкі перадвыбарчых пікетаў выключна выбарамі ў заканадаўстве не закладзенае. Асаблівай агітацыі за байкот выбараў падчас мясцовай кампаніі я не заўважаў, але гэта можа ўдарыць па «байкотчыках» прэзідэнцкіх выбараў. Цікавыя навацыі ў працэсе рэгістрацыі кандыдатаў, якія зараз павінны прадставіць даведку аб адукацыі: некаторыя кандыдаты, напрыклад, падавалі ў выбарчыя камісіі дыплом аб вышэйшай адукацыі, але ім адмаўлялі ў рэгістрацыі, бо не быў прадстаўлены дыплом сярэдняй адукацыі», — адзначыў Чаўсаў.

Калі такія моманты не заўважыць, то ў далейшым міма рэгістрацыі можа праляцець і кандыдат у прэзідэнты.

Зараз на разглядзе ў парламенце знаходзяцца яшчэ адны папраўкі ў той жа Выбарчы кодэкс. Зразумела, яны будуць прымацца з улікам практыкі мясцовых выбараў. І, напрыклад, такія не ўзаконеныя навацыі, як абмежаванне тэматыкі пікетаў, можна будзе ўзаконіць.

# Над Аўтуховічам устаноўлены прэвентыўны нагляд

**18 сакавіка ў Гродзенскай турме адбыўся выязны суд па справе палітвязня Мікалая Аўтуховіча.**

Разглядалася пытанне па ўстанаўленні над ім прэвентыўнага нагляду. Суд праходзіў без адваката, яму паведамілі пра пачатак працэсу за паўгадзіны да таго. Аўтуховіч хадайнічаў адкласці суд да з'яўлення абаронцы, але яму адмовілі ў задавальненні просьбы. Справу разглядаў суддзя Ленінскага раёна Гродна Юрый Казакевіч, вядомы тым, што раней судзіў у Гродне журналіста Андрэя Пачобута.

Як паведаміў адвакат, над палітвязнем усталяваны прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год і 4 месяцы. Аўтуховіч разлічваў на больш мяккі прысуд — 6 месяцаў нагляду.

Пасля суда Аўтуховіч сустрэўся са сваім абаронцам. Палітвязень скардзіўся на боль у руцэ і высокую вільготнасць у камеры.

Вызваленне Мікалая Аўтуховіча чакаецца 8 красавіка.

**spring96.org**

# Вязня ГУЛАГу пасадзілі на Акрэсціна

Тацццяна ШАПУЦЬКА

**Старшыню беларускага «Мемарыяла» 73-гадовага Уладзіміра Раманоўскага, які нарадзіўся і правёў 20 гадоў жыцця на Калыме, асудзілі на 10 сутак арышту.**

Як распавялі НЧ паплечнікі Раманоўскага, якія прысутнічалі на судовым пасяджэнні, суддзя доўга не мог вынесці рашэння па справе Уладзіміра Раманоўскага і з кімсьці раіўся наконт прысуду.

Акрамя Уладзіміра Раманоўскага, у судзе Савецкага раёна судзілі яшчэ шасцярых удзельнікаў пікета салідарнасці з палітвязнямі і зніклымі палітыкамі. Аляксандр Арастовіч — намеснік старшыні



«Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)» і зняволенага экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча таксама атрымаў 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

Спікера Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганну Канапацкую суд абвінавацію ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і пакараў штрафам у 30 базавых велічынь.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька асуджаны на 15 сутак. Іншыя ўдзельнікі пікету салідарнасці з палітвязнямі Яўген Храпаў і Міхаіл Бабіла пакараныя арыштам на 10 сутак, Вольга Маёрава — штрафам у 30 базавых велічынь.

Нагадаем, 16 сакавіка праходзіў пікет салідарнасці з палітвязнямі на пляцоўцы каля Камароўскага рынку сталіцы. Усіх удзельнікаў пікета затрымалі. На семярых затрыманых — Анатоля Лябедзьку, Алеся Арастовіча, Уладзіміра Раманоўскага, Яўгена Храпава, Міхаіла Бабілу, Ганну Канапацкую і Вольгу Маёраву — склалі адміністрацыйныя пратаколы.

# Бараніць Курапаты праз суд

Марат ГАРАВЫ

**Прадстаўнікі грамадскасці вырашылі бараніць Курапаты праз суд.**

У сваёй скарзе, накіраванай 17 сакавіка ў суд Цэнтральнага раёна Мінска, яны просяць абавязаць Генеральную пракуратуру прадпрыняць дзеянні для выпраўлення парушэнняў заканадаўства аб ахове Курапатаў з боку СТАА «БелРэстІнвест», а таксама для вынасу 4 дамкоў аб'екту прыдарожнага сервісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол» з тэрыторыі ахоўнай зоны гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Пра гэта 17 сакавіка ў Мінску на прэсавай канферэнцыі паведамілі заяўнікі скаргі. Сярод іх — старшыня ГА «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» 84-гадовы Вацлаў Нямковіч, старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, грамадскія дзеячы і навукоўцы Вацлаў Арэшка і Вінцук Вячорка, а таксама грамадскі актывіст Алесь Макаў, які восенню 2008 года затрымаў у Курапатах вандалаў, за што пазней страціў працу.

Нагадаем, што ўвосень 2012 года грамадскасці стала вядома аб парушэнні заканадаўства ў дачыненні да Курапатаў. Падчас будаўніцтва аб'екту прыдарожнага сервісу на 51-м кіламетры МКАД заказчык работ «БелРэстІнвест» узвёў у заходняй частцы ахоўнай зоны Курапатаў 4 дамкі.

Грамадскасць неаднаразова вусна і пісьмова звярталася ў розныя органы выканаўчай улады, а таксама ў Генеральную пракуратуру з просьбай прыняць неабходныя неадкладныя меры ў межах кампетэнцыі адпаведных дзяржаўных структураў.

Генеральная пракуратура 27 лістапада 2012 года накіравала Мінскаму аблвыканкаму адпаведнае прадстаўленне № 0703-05д-18745 «Аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай каштоўнасці, прычын і ўмоваў, якія ім спрыяюць».

Гэтае прадстаўленне было разгледжана на нарадзе ў камітэце па архітэктуры і будаўніцтве Мінаблвыканкама 27 снежня 2012 года з удзелам прадстаўнікоў Генпракуратуры, Міністэрства культуры і іншых зацікаўленых. Было прынята аднагалоснае рашэнне аб неабходнасці вынасу «БелРэстІнвестам» 4 дамкоў аб'екту прыдарожнага сервісу з тэрыторыі ахоўнай зоны Курапатаў. Аднак па сённяшні дзень гэтае рашэнне так і не выканана.

Як распавёў Вацлаў Арэшка, акрамя таго, што забудоўшчыкі парушылі недатыкальнасць ахоўнай зоны Курапатаў з іх заходняга боку, такія ж пагрозы існуюць з іншых бакоў народнага мемарыялу. Паводле яго слоў, гаворка ідзе пра тое, што ў паўночнай частцы ахоўнай зоны Курапатаў забудоўшчыкі катэджнага пасёлка «Сонечны» ўжо ўзвялі інжынерныя збудаванні, запраектавана ўзвядзенне новых дамоў, аўтастаянкі і крамы; у ахоўнай зоне народнага мемарыялу з усходу ад яго запланавана будаўніцтва вялізарнага Міжнароднага выставачнага цэнтру. Вось чаму вырашана бараніць ахоўныя зоны Курапатаў праз суд, сказаў Вацлаў Арэшка.

Вінцук Вячорка зазначыў, што да ідэалагічна абгрунтаваных учынкаў улады адносна Курапатаў дадаліся матывы эканамічныя. Ён падкрэсліў, што гаворка ідзе пра «вельмі смачныя зямельныя кавалкі», якія знаходзяцца каля самай МКАД.

Вацлаў Нямковіч падкрэсліў, што дзяржава ніколі не пакідала Курапаты ў спакоі. Пра гэта сведчыць пасляваенная высяканне лесу ва ўрочышчы, эксгумацыя парэшткаў бязвінных ахвяраў падчас будаўніцтва праз народны мемарыял газаправоду і МКАД, ае пашырэння, а таксама ўзвядзенне ў ахоўнай зоне помніка гісторыі так званага «Бульбаш-холу». Так што нацыянальны некропаль трэба абараняць не толькі ад вандалаў, але і ад чыноўніцтва.

# Мінкультуры выйграла суд

Марат ГАРАВЫ

**17 сакавіка суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Алена Семак не задаволіла скаргу сябры Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (БДТАПГіК) Дзяніса Турчаняка на дзеянні Міністэрства культуры па ўхваленні праектнай дакументацыі на пабудову моста праз роў Кобрынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці.**

Сваё рашэнне суддзя матывавала тым, што ўзгадненне праектнай дакументацыі з'яўляецца выключным правам Мінкультуры і не можа аспрэчвацца грамадзянамі, у тым ліку і заяўнікам. Прычым, паводле яе слоў, дзеянні міністэрства па ўхваленні праекту моста не ўцiскаюць, а пашыраюць правы Дзяніса Турчаняка на карыстанне культурнай спадчынай.

Заяўнік заклікаў суд адмяніць станоўчае заключэнне Міністэрства культуры наконт праекту ўзвядзення моста і адклікаць дазвол Міністэрства культуры на распрацоўку гэтага праекту.

Сваю пазіцыю Дзяніс Турчаняк матываваў тым, што будаўніцтва моста з'яўляецца незаконным, паколькі праект не прайшоў грамадскае абмеркаванне і не быў ухвалены Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радай па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны. Заяўнік звярнуў увагу на забарону новага будаўніцтва на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці — гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння.

Прадстаўнікі Міністэрства культуры заявілі, што ўзгадненне праектнай дакументацыі з'яўляецца службоваю прэрагатывай чыноўніцтва і няма аніводнага нарматыўна-прававога акту, згодна якому грамадзяне могуць аспрэчваць рашэнні міністэрства.

Пры гэтым, як адзначылі чыноўнікі, новы аўтамабільна-пешаходны мост праз роў Кобрынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці дазваляе забяспечыць агульнадаступнасць помніку, камфорт і бяспеку яго наведвальнікаў, пашырае магчымасць карыстання гэтым аб'ектам гісторыка-культурнай спадчыны і, такім чынам, спрыяе рэалізацыі права грамадзян на ўдзел у культурным жыцці.

Дзяніс Турчаняк збіраецца абскарджваць рашэнне Алены Семак у Мінскім гарадскім судзе. Ён будзе дабівацца ўзбуджэння крымінальнай справы супраць чыноўнікаў па факту перавышэння службовых паўнамоцтваў, што прывяло да неабгрунтаванага выдаткавання бюджэтных сродкаў на будаўніцтва вышэйзгаданага моста.

Старшыня БДТАПГіК Антон Астаповіч зазначыў, што, на жаль, у чарговы раз пацвердзілася пазіцыя Мінкультуры не абараняць спадчыну, а задавальняць інтарэсы інвестараў і органаў улады па рэалізацыі пэўных праектаў. Ён назваў рашэнне Алены Семак «унікальным судовым прэцэдэнтам, што тычыцца ўсіх органаў дзяржаўнага кіравання, якія ў межах сваёй кампетэнцыі могуць прымаць любыя рашэнні, непадсправаздачныя грамадзянам».

У гэтай сітуацыі Антон Астаповіч мяркуе звярнуцца ў Канстытуцыйны суд, у Вярхоўны суд, Генеральную пракуратуру і Міністэрства юстыцыі для тлумачэння механізму судовага аспрэчвання неправамерных дзеянняў Мінкультуры.

# Генік Лойка падаў у суд на КДБ

**Скульптар і грамадскі дзеяч Генік Лойка падаў у суд на КДБ. Прычынай стала здарэнне, калі ў прыёмным пакоі КДБ супрацоўнік ведамства не змог адказаць наведніку на мове звароту.**

Супрацоўнік КДБ Сяргей Кайдуноў заявіў, што ён не валодае беларускай мовай.

— У нас у Беларусі немагчыма дабіцца ад дзяржавы беларускай мовы, дзяржава не дае беларускую мову — гэта парушэнне чацвёртага артыкула закона аб мовах. Шмат было такіх выпадкаў, калі я проста абмяжоўваўся якой-небудзь скаргай і ўсё. Але ў гэтым выпадку я паспрабаваў давесці ўсё да суда, прайшоў усе інстанцыі, напісаў двойчы кіраўніцтву КДБ, нарэшце вось падаў у суд, — кажа Генік Лойка.

Генік Лойка ў сваёй судовай скарзе просіць прызнаць дзеянні юрыдычнай асобы Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь — па адмове ў карыстанні дзяржаўнай беларускай мовай — незаконнымі. Абавязаць КДБ прыняць меры



дысцыплінарнага ўздзеяння да свайго супрацоўніка аж но да звальнення з пасады.

**Радыё «Рацыя»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Забаўная арыфметыка

**Мяне заўсёды здзіўляла забаўная арыфметыка ўладаў. Напрыклад, нам увесь час кажуць, што насельніцтва плаціць за жыллёва-камунальныя паслугі толькі 30%, хаця кошты ўсё растуць. Альбо, калі кошт праезду быў 1 300 рублёў, нам казалі, што квіток павінен каштаваць 3 000. А калі кошт узрос да 3 000, нам кажуць, што сапраўдны кошт праезду — 6 000. Афіцыйная ж інфляцыя ў нас — 12%. Што гэта?**

Сяргей САЛАЎЁЎ


photo.bymedia.net

Падаецца, меў рацыю Аляксандр Лукашэнка, калі казаў, што нам патрэбныя добрыя настаўнікі і рэформа школьнай адукацыі. Але, падаецца, справа тут не толькі ў адукацыі, але і ў моцным намеры выдаваць заўсёды пажаданае за дзейснае. Мы заўсёды будуем шмат планаў, але за гэтыя планы потым прыйдзецца разлічвацца.

Напрыклад, першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Марыніч на тыдні заявіў, што Беларусь плануе ў 2014 годзе атрымаць 9 мільёнаў тон збожжа. Таксама ставіцца задача атрымаць 1,6 мільёна тон бульбы, 4,7 мільёна тон цукровых буракоў, да 1 мільёна тон алейнага семя рапсу, 518 тысяч тон гародніны. Таксама плануецца атрымаць 8,3 мільёна тон кармавых адзінак травяністых кармоў.

Падаецца, што нашая сельская гаспадарка пры такіх планах павінна квітнець і радавацца. Але ж радавацца няма чаму. Як падае Нацыянальны статыстычны камітэт, у студзені-лютым 2014 года ў гаспадарках усіх катэгорый (у сельскагаспадарчых арганізацыях, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках, гаспадарках насельніцтва) вытворчасць прадукцыі сельскай гаспадаркі зменшылася ў параўнанні са студзенем-лютым 2013 года на 4%.

Зразумела, што зараз толькі зіма скончылася, і хутка будзе пасяўная. Але ж гэта вядомая «адмазка» — у нашай сельскай гаспадаркі чатыры праблемы: зіма, вясна, лета і восень. Планаваць атрыманне прадукцыі, канешне, можна, але трэба яшчэ і разлічваць, у колькі яна нам абыдзецца.

На гэтую праблему звярнуў увагу Аляксандр Рыгоравіч, правёўшы нараду па сельскай гаспадарцы. «Сельскую гаспадарку трэба прыводзіць у пачуццё. Мы не можам так фінансаваць і падтрымліваць сяло, як раней. Па розных прычынах», — заявіў Лукашэнка. «У нас ёсць пэўныя абавязацельствы і ў Мытным саюзе. Па-другое, у нас ужо намецілася нейкая тэндэнцыя да ўтрыманства. Мы ж з вамі працавалі ў сельскай гаспадарцы, вы ведаеце: прасі больш, дадуць крыху менш», — падзяліўся Лукашэнка формулай поспеху.

Ён нагадаў, што цяпер на чале з прэм'ер-міністрам актыўна працуе група па вёсцы, і ў бліжэйшы час «мы выйдзем на пэўныя рэкамендацыі, вывучыўшы сітуацыю прыкладна так, як было па будаўніцтву». «Але меры адны: час ужо зарабляць», — сказаў Лукашэнка.

Ёсць два моманты, якія хацелася б адзначыць у сувязі з нарадай у Лукашэнкі. Пра тое, што «трэба зарабляць», ён казаў неаднаразова. І пра тое, што Беларусь скароціць субсідыі сельскай гаспадарцы, Лукашэнка гаворыць ужо пяць год запар. Але нічога ад гэтага не змяняецца. Падаецца, кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў на чарговыя заклінанні са словамі «скароцім датацыі» і «трэба зарабляць» ціхенька пасмейваюцца: «Дасі ты грошай, нікуды не падзенешся! Пяць год ужо абяцаеш нас разнесці, а ўсё ніяк».

Што ж тычыцца «прыкладна таго, як гэта было ў будаўніцтве». А што там было? А нічога там не было! Было тое, што Аляксандр Рыгоравіч некалькі разоў даваў даручэнне вырашыць праблемныя пытанні ў будаўніцтве. І кожны раз тэрмін «канчатковага вырашэння» пасоўваўся на тры месяцы, паўгады, дзевяць месяцаў... Карацей, даручэнне кіраўніка дзяржавы ператварылася ў той самы «даўгабуд», якога планавалі пазбавіцца.

А як сельская гаспадарка будзе зарабляць — гэта вядома. У Беларусі на 5% павышаны адпускныя цэны на мяса. Лімітавая максімальная адпускная цана на ялавічыну патушную складзе 33 279 рублёў за кілаграм, на свініну патушную першай і другой катэгорыі — 31 920 рублёў за кілаграм, свініну трэцяй катэгорыі — 29 814 рублёў за кілаграм. А значыць, і на прылаўках мяса падаражэе.

І будзе даражэць далей, бо складнікі ягонай вытворчасці таксама даражэюць. Напрыклад, у Беларусі на 1,8 % павышаныя гранічныя максімальныя адпускныя цэны на вугляводародны звадкаваны паліўны газ для камунальна-бытавога спажывання. Гэта ўжо другое павышэнне коштаў у бягучым годзе, у студзені кошт газу быў павялічаны на 20%.

Цікавая і арыфметыка пра славутыя «500 долараў заробку ў эквіваленце». Мы ўжо казалі пра тое, што рост заробку ў Беларусі спыніўся, і,варта дадаць, прыкладна на гэтай лічбе. Але, аказваецца, заробак — гэта не даход. Па інфармацыі Белстата, у Беларусі ў студзені 2014 года агульны аб'ём грашовых даходаў насельніцтва склаў 36 трыльёнаў рублёў, у разліку на душу насельніцтва — 3 798 100 рублёў у месяц.

То бок, на душу насельніцтва прыйшлося каля 385 долараў даходу. «Кожнаму па 500 не атрымалася», хаця была такая мара.

Але больш за ўсё цікава назіраць за забаўнай беларускай арыфметыкай падчас выбараў. Нягледзячы на тое, што мяжа яўкі зараз на мясцовых выбарах адменена, Цэнтрвыбаркам лічыць колькасць электарату на ўчастку. У першы дзень датэрміновага галасавання, па дадзеных ЦВК, прагаласавала 3,82% выбаршчыкаў.

І прагаласавала б больш, калі б электарат не адпужвалі назіральнікі. Напрыклад, у Мінску на 51-м участку Чыгуначнай акругі №20 у першы дзень датэрміновага галасавання назіральнік прыйшоў праз 3 гадзіны пасля адкрыцця ўчастку. Да канца дня пры ім прагаласавалі толькі чатыры чалавекі. Але ж агульная сума прагаласаваўшых за дзень, паводле дадзеных участковай камісіі, склала 129 чалавек. То бок, калі верыць камісіі, за тры гадзіны на ўчастку прагаласавалі 125 чалавек, а ў астатнія чатыры гадзіны — чатыры. Мабыць, назіральнік выглядаў надзвычай жахліва і распужаў народ з участку.

У Воршы на выбарчым участку №6 Маладзёжнай выбарчай акругі №8, па дадзеных выбарчай камісіі, за адну гадзіну першага дня датэрміновага галасавання на галасаванне па хатах шляхам выязной скрыні запісаліся 340 (!) чалавек. Калі ўсе гэтыя людзі сапраўды хвараюць, туды трэба не выбарчую камісію адпраўляць, а медыкаў. Бо гэта ж эпідэмія.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Мікалай Ладуцька

**Мэр Мінска Мікалай Ладуцька напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі асабіста заняўся арганізацыяй працы таксі.**

Як паведамляе БелТА, на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, на якім разглядалася пытанне гатоўнасці да правядзення Чэмпіянату свету па хакеі, старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька заявіў, што ў Мінску будзе наведзены жорсткі парадак у працы службаў таксі.

На час чэмпіянату будзе арганізавана дзяжурства маршрутных таксі ў Нацыянальным аэрапорце «Мінск», якія будуць дастаўляць гасцей да месцаў пражывання. Будуць арганізаваны спецыяльныя групы таксі. Мікалай Ладуцька адзначыў, што будзе наведзены дастаткова жорсткі парадак у арганізацыі іх працы ў раёне Нацыянальнага аэрапорта Мінск сумесна з падатковай інспекцыяй, ГУУС, дырэкцыяй аэрапорта. Сур'ёзныя патрабаванні будуць прад'яўлены да формы адзення кіроўцаў таксі, санітарнага стану салонаў аўто. На вакзалах з'явіцца інфармацыя адносна кошту паслуг таксі.

## Лідзія Ярмошына



**Кіраўніца ЦВК Лідзія Ярмошына прапанавала арыгінальны спосаб кампенсаваць недахоп жывых зносінаў паміж кандыдатамі і выбаршчыкамі.**

Па яе меркаванні, калі выбаршчыкі не ходзяць на сустрэчы з кандыдатамі ў дэпутаты, то апошнім варта абзавесціся блогамі, каб народ змог даведацца пра іх.

«На сустрэчы яны не ходзяць, дый кандыдаты іх мала праводзяць. Праз віртуальныя зносіны выбаршчыкі могуць высвеtліць усе пра кандыдата і зрабіць асэнсаваны выбар», — канстатуе спадарыня Ярмошына.

Паводле словаў старшыні ЦВК, выбаршчыкі актыўна карыстаюцца сайтам Цэнтральнай камісіі. «Мы знаходзімся ў актыўнай электроннай перапісцы з выбаршчыкамі», — сказала яна.

Улічваючы сусветную практыку, Беларусі таксама не варта спяшацца з увядзеннем электроннага галасавання, лічыць Лідзія Ярмошына. «Мяркую, што мы таксама павінны выкарыстоўваць інфармацыйныя тэхналогіі, перш за ўсё, як сродак апублікавання вынікаў выбараў і вынікаў усёй кампаніі, азнаямлення з імі выбаршчыкаў», — удакладніла яна.



## Павел Латушка

**Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка «атрымаў па шапцы» ад кіраўніка дзяржавы за негатоўнасць прадаваць прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў.**

«Мы паслоў «заціснулі», каб прадавалі прадукцыю, а прадаваць жа не хочацца. Хочацца ж, ведаеце: беленькія манжэцікі, беленькія каўнерыкі, сядзець у Францыі і прадстаўляць нейкія палітычныя інтарэсы, займацца баўбатнёй і карціны на сценках развешваць, паказваючы гэтым сваю працу. Калі іх жыманулі па продажах прадукцыі, што ў гэтым годзе трэба будзе перад прэзідэнтам даваць справаздачу, яны завылі, што прадукцыя не тая. Але гэта ўжо не праходзіць. Я працую прэзідэнтам 20 гадоў, не першы год, мне можна было тады, у 30 гадоў, локшыну вешаць на вушы, але ўжо не сёння», — сказаў Лукашэнка.

Нагадаем, што 9 лютага ў інтэрв'ю праграме «Контуры» тэлеканала АНТ Павел Латушка заявіў, што цяжка разлічваць на тое, што беларускія дыппрадстаўніцтвы за мяжой змогуць прадаваць беларускую тэхніку са складоў. Паводле яго слоў, разлічваць на тое, што за прадпрыемствы, якіх у краіне тысячы, задачы экспарту вырашыць адзін гандлёвы дарадца ці адзін пасол, цяжка.

«Мы сустракаемся з сітуацыяй, калі наша тэхніка на прэзентацыях проста ламаецца. І, вядома ж, які можа быць давер да той прадукцыі, якая на першай жа прэзентацыі можа зламацца? Калі ключ ад адзінкі нашай тэхнікі не можа адкрыць дзверы. Можаце сабе ўявіць, чалавек купляе «Мерседэс», бярэ ключ — і дзверы гэтага «Мерседэса» адкрыць не можа. Вядома, мы не прадаем «Мерседэсы», але ўжо сёння, калі мы кажам пра сельскагаспадарчае машынабудаванне, пакупнік чакае «Мерседэса» на полі», — канстатаваў беларускі дыпламат.

# Забярыце ў іх рускія літары!



Зміцер ГАЛКО

**Адэса — ужо прыфрантавая паласа. Звычайна шматлюдны і бестурботны горад ад подыху блізкай вайны натапырыўся і спусцеў. «У мяне проста сківіца адвісла, калі я пабачыла, наколькі пуста ў Адэсе», — кажа жанчына, якая днямі вярнулася дадому з адпачынку.**

### Шкурны інтарэс

На адэскіх вуліцах, у кавярнях і крамах сапраўды пуста. У хостэле, дзе я спыніўся, з 24 месцаў занятыя толькі тры. Апроч мяне тут жывуць яшчэ два чалавека — брытанец Пеле і аўстраліец Рос. Між іншым, падзяліліся нават яны. Пеле вельмі падабаецца ва Украіне, ён актыўна сочыць за падзеямі, горача падтрымлівае ўкраінцаў. Рос усім навокал незадаволены, кажа, што тут усё дорага і кепска арганізавана, падзеямі не цікавіцца, упэўнены, што Майдан, як і цяперашняя сітуацыя, — справа рук ЦРУ, бо ЗША квапяцца на запасы газу на Чарнаморскім шэльфе.

«Дзіўны чалавек, — расказвае пра Роса гаспадыня хостэлу. — Нейкі перапуджаны па жыцці. Ад любога званку ў дзверы падскоквае, нікому не давярае. На ўсім эканоміць, ходзіць у абносках, а накупіў сабе цэлы мяшок савецкіх медалёў. Ён не вельмі адукаваны, асабліва з ім не пагутарыш, справы сваёй у яго няма. Засталіся нейкія землі ў спадчыну ў Аўстраліі, здае іх у арэнду паляўнічым. Прыехаў сюды жонку шукаць, але не лёсіць яму».

У другім хостэле гаспадыні таксама пуста. Яна пра сябе кажа, што «ў палітыку ніколі не лезла», ёй нават усё роўна, у якой краіне жыць, — «абы не перашкаджалі грошы зарабляць». Але цяпер бэсціць Пуціна і мясцовых «антымайданаўцаў» апошнімі словамі, гаворачы, што калі дзяржава не дасць рады, дык яны «самі возьмуцца за вілы». Падобным чынам разважаюць многія іншыя дробныя ўласнікі, чый бізнэс арыентаваны на турыстаў. Не праз вялікі патрыятызм, а праз шкурны інтарэс.

### «Толькі нічога там не ўзрывай»

Калі можна казаць пра масавіднага адэсіта (наўрад ці адэсіты пагадзіліся б лічыцца «масавіднымі», бо ў іх высока развітая індывідуальнасць, але тым не менш), ён не рвецца ў бой. У Харкаве і Данецку я сустракаў шмат мужчынаў, якім па-мужчынску было крыўдна, што іх краіна не дае адлуп нападніку. Гэта пачуццё падобнае да пачуцця футбольных фанатаў, чыя каманда прайграе. У Адэсе яно прыглушанае. Рэагуюць з мяккай іроніяй, як, напрыклад, у адказе аднаго мажнага дзядзькі на маё пытанне, як прайсці да Саборнай плошчы. На мне была зялёная вопратка ў стылі мілітары.

— Прайсці так і так. Але ты там нічога не ўзрывай. Я люблю сваю Саборную плошчу і не ўхвалю.

Паноўнай моваю ў Адэсе з'яўляецца руская, але гэта не робіць яе рускім горадам. Адэса — горад касмапалітычны. Міжнацыянальныя трэніі тут даўно звыклі вырашаць мірным шляхам. У адэсітаў у галаве не ўкладваецца, як можна варагаваць праз розніцу моваў ці культурныя асаблівасці. Адсюль іх іранічнае стаўленне.

Зрэшты, гэта не азначае адсутнасці свядомай пазіцыі адносна сённяшняй сітуацыі. Адукаваным прафесіяналам, з якімі я гутарыў, зусім не ўсё роўна, у якой краіне яны працуюцца заўтра.

Ілюстрацыя міралюбнасці: сцягі на адным з гатэляў Адэсы. Швейцар гэтага гатэлю ўсё ж заўважыў, што некаторыя нервова рэагуюць на сцягі, магчыма, іх ужо прыбралі



### Не хачу, каб дзеці былі робатамі

Алена Святлічная, праграмістка, нарадзілася на Днепрапятроўшчыне, сямейныя карані з Данбасу, з шматнацыянальнай і рускамоўнай сям'і, працяглы час жыла ў Севастопалі, цяпер жыве і працуе ў Адэсе. Яна расказвае, што з самага пачатку Майдана ўцягнулася ў палітычныя падзеі. Не толькі эмацыйна, як глядач, але і як удзельнік.

Па словах Алены, у гэтым яна зусім не самотная, пераважная большасць яе знаёмых з IT-сферы падтрымлівалі Майдан і цяпер выступаюць за цэласнасць Украіны.

Я падзяліўся з суразмоўніцай сваімі высновамі, зробленымі калісьці адносна праслойкі беларускіх праграмістаў. Парадаксальным чынам, згодна з маімі назіраннямі, яны ўяўляюць сабой даволі пасіўную сацыяльную групу, якая найперш прагне праслаўтай стабільнасці. Чаму ж у праграмістаў з Украіны гэта не так?

«Мне даволі дзіўна гэта чуць пра беларускіх калегаў... Адна з неабходных умоваў унутранай свабоды — гэта фінансавая свабода. Я калісьці жыла на заробак дзяржслужачай, у нашых умовах гэта азначае — выжывала. Таму ў некаторай ступені разумею бюджэтнікаў, якія падтрымліваюць Расію, бо яна абяцае ім значна вышэйшыя заробкі і пенсіі ўжо з заўтрашняга дня. Праграміста гэтым не забавіш. Апроч таго, мне, як чалавеку ўнутрана свабоднаму, вельмі важна мець магчымасць выказваць і адстойваць свой асаблівы пункт погляду без пагрозы таго, што цябе паставяць да сценкі.

Я забяспечваю сябе і здольная дапамагчы маім блізкім. Я гатовая цярпець пэўныя эканамічныя цяжкасці зараз, але пры ўмове, што буду ведаць — яны часовыя, наперадзе нас чакаюць пазітыўныя змены. Чаго я не гатовая рабіць, дык гэта адлічваць частку заробленага на залатыя батоны мажнаўладцам, якія хочуць кіраваць вечна, паплёўваючы з вышыні на падданых.

Аднойчы ў мяне будуць дзеці. Натуральна, я думаю пра іх развіццё. Вельмі важная частка якога — свабодны доступ да шырокага кола крыніцаў інфармацыі. Гэта мае непасрэднае дачыненне да здольнасці мысліць. Калі ж мне прапануюць будучыню, дзе мае дзеці будуць існаваць у рэжыме робатаў — далі табе ўказанне, а ты, не разумеючы, што ты робіш і навошта, робіш тое, што табе сказалі, — прабачце, я гэтага не куплю.

Я не магу аспрэчваць права севастопальцаў імкнуцца жыць у Расіі (пра ўсіх крымчанаў не кажу, прынамсі, крымскія татары туды зусім не жадаюць), хаця сама і хацела б думаць пра іх інтарэсы ў складзе Украіны, але што да мяне — дзякуй, не трэба.

Майдан, вядома, не даў 100-адсоткавай гарантыі, што



Алена Святлічная




ўсё будзе добра. Аднак ён даў надзею на развіццё краіны ў іншым кірунку, больш прывабным, чым архаічная дыктатура з клептаманскімі замашкамі. Такой была наша краіна за Януковічам, такой ёсць пуцінская Расія».

## Майдан — адзіная палітычная сіла

Вадзім Ланда, адэсіт, сямейны лекар, яго дачка вучыцца ў Калінінградзе. Думае, што ягоныя погляды збольшага падзяляюць «усе адэкватныя адэсіты». Майдан успрымае як здзяйсненне заходніх украінцаў, аднак лічыць яго галоўнай пазітыўнай палітычнай арганізацыяй у краіне.

«Да Майдану я насцярожана ставіўся да заходнікаў, як і многія іншыя жыхары паўднёвага ўсходу Украіны праз іх меркаванае агрэсіўнае стаўленне да нас, рускамоўных грамадзянаў. Але, маніторачы сітуацыю на Майдане, я пабачыў, што яны ў масе сваёй вельмі неадназначныя, сярод іх шмат нават канфліктуючых групаў. З іншага боку, я іх запаважаў. Бо ў іх ёсць нацыянальная ідэя, чаго няма ў нас. Каб было больш зразумела, я не бачу на паўднёвым усходзе дзяржаўнасці ў мысленні. Для такіх людзей і Майдан быў нечым такім, што робіцца дзесьці там, іхнага дазволу на яго ніхто не запытаўся (хаця якім чынам павінны былі запытацца?), таму ён ім або па цымбалах, або выклікае раздражненне.

Вадзім Ланда

Дасюль менавіта такія людзі, без дзяржаўнага мыслення, займалі ў нас кіруючыя пасады. Яны проста вырашалі на тых пасадах уласныя праблемы і задавольвалі ўласныя інтарэсы. На мой погляд — погляд чалавека, які раней ніколі не цікавіўся палітыкай, — у нашай краіне сёння існуе адзіная палітычная арганізацыя, здольная супрацьстаяць усяму, што цяпер адбываецца, — гэта Майдан. Я маю на ўвазе не стольkі пуцінскую акупацыю, колькі ўнутраную палітыку. Мне (і не мне аднаму) хацелася б, каб ва ўрад зноў не прыйшлі людзі, якім немагчыма даваряць. Хацелася б пабачыць там нарэшце людзей, гатовых разбудоўваць краіну. Менавіта кантроль Майдану мог бы гэта забяспечыць.

Калі ж запусціць працэс федэралізацыі, я проста не бачу на месцах сілаў, аналагічных Майдану, здольных кантраляваць улады. На мой погляд, у федэратыўных землях на кіроўныя пасады зноў ускараскаюцца людзі старога кшталту, і ўсё застанецца па-ранейшаму. Бо тут сілы майданаўцаў не будзе.

На ўкраінскім паўднёвым усходзе многія ўчапіліся за ідэю далучэння да Расіі ў асноўным праз тое, што ўбачылі ў Пуціне лідара з дзяржаўным мысленнем. Але ўсё правяраецца практыкай. На практыцы ж у Расіі жывуць некалькі буйных гарадоў... і Чачня, якую тушаць грашыма. Астатняя правінцыя ледзь ліпіць.

Можна пагадзіцца, што ўкраінская правінцыя таксама гібее, але ў чым тады сэнс у аднаго «кепска» пераходзіць у іншае? Пагатоў, для людзей мыслячых гэта будзе пераходам не проста ў іншае «кепска», а ў нешта значна горшае, бо Расія жыве пры дыктатуры. А мыслячы чалавек ва ўмовах дыктатуры... не пладаносіць, скажам так».

## «Пайду ў катакомбы»

Юры Жэбракоўскі, архітэктар, карэнны адэсіт, чыя сям'я жыве ў Адэсе з XIX стагоддзя. Гатовы сысці ў славутыя адэскія катакомбы ў выпадку акупацыі гораду «зялёнымі чалавечкамі».

«Калі нехта кажа, што яму ўсё роўна, пад якім сцягам жыць, абы не перашкаджалі зарабляць грошы, ён вельмі памыляецца. Не можа быць такога, што сёння мы жывем у адной краіне, заўтра прачынаемся ў іншай, і ўсё о'кей, жывем, як і жылі. Натуральна, такая змена будзе суправаджацца прававым хаосам. Зусім не факт, што твой бізнэс у іншай краіне застанецца тваім.



Атрад Антымайдану. Адэса, 15 сакавіка 2014 г.

Але нават калі ўявіць, што тут Пуцін жалезнай рукой навядзе парадак, мне той парадак і задарма не патрэбны. Я камфортна адчуваю сябе ва Украіне. Нягледзячы на тое, што я рускамоўны чалавек. Цярпець не магу, дарэчы, моўнае пытанне — яно высмактана з пальца і не мае ніякага значэння, апроч як інструмент атрымання балаў у палітычнай барацьбе. Не тое што нейкага ўшчамлення правоў, я нават дробных нязручнасцяў за ўсё жыццё не адчуваў праз сваю рускамоўнасць.

Мне ўпершыню за апошнія месяцы стала страшна, да панічнага трымцення, толькі тады, калі ў Крыму з'явіліся «зялёныя чалавечкі» — нібыта абаронцы маіх ушчэмленых правоў, так? Не было ў нас унутранай пагрозы, з якой мы не маглі б справіцца самі, а вось знешняя з'явілася. Цяпер я свой страх ужо пераадолеў. Калі спатрэбіцца, гатовы пайсці абараняць сваю радзіму. Не патраплю на фронт — пайду ў катакомбы і буду весці дыверсійную дзейнасць супраць акупантаў.

Наконт антымайданаўцаў... Хіба яны не разумеюць, што з'яўляюцца сёння галоўнай пагрозай для краіны, калі з усіх бакоў разумна ацаніць сітуацыю? Не ведаю, ці можна ім гэтую простую думку неяк патлумачыць. Але калі б яны адмовіліся ад сепаратысцкіх ультыматумаў, я не бачу праблемы ў тым, каб з імі немагчыма было дасягнуць нейкага кампрамісу. Скажам, я ўхваляю ідэю дэцэнтралізацыі ўлады, лічу за патрэбнае змяніць сістэму размеркавання падаткаў і збораў. Навошта ўсе сабраныя тут падаткі адпраўляць у Кіеў, потым ізноў вяртаць іх сюды? Такія перакосы можна выправіць. А вось да пытання федэралізацыі вярнуцца гадоў праз дваццаць пяць. Федэралізацыя па патрабаванні Пуціна — гэта проста міжнародны шантаж, мэтай якога ёсць раскол Украіны».

## Рускі карабель з трэсак

Юрыю на Антымайдане маглі б адказаць: што значыць «раскол»? Уз'яднанне рускага свету! Яшчэ Серафім Сароўскі прарочыў: «Адновіцца Рускі карабель з трэсак ва ўсёй сваёй красе і пойдзе сваім шляхам»!

Калі вы раптам ведаеце, што цытата належыць не Серафіму Сароўскаму, лепей устрымайцеся ад спрэчкі — такой заўвагі можа аказацца дастаткова, каб вас запісалі ў «бандэраўцы».

Пры мне адна жанчына спрабавала высветліць, якім чынам ёй адрозніць агрэсараў ад абаронцаў, калі што якое. Ну, казала яна, я тут бачу людзей у камуфляжнай форме, касках, з бітамі і шчытамі. Вельмі падобных з выгляду да экстрэмістаў, якія нібыта маюць прыйсці ў Адэсу і ўчыняць пагромы. Але ж вы сцвярджаеце, што яны тут для маёй абароны. Каб мне раптам не пераблытаць іх...

На што ўкормлены, прылізаны, дорага апрануты чалавек з ліку арганізатараў мерапрыемства, падобны да якога-небудзь дэпутата, ёй адказваў: «Нешта вы шмат пытанняў задаяце. Вы, напэўна, бандэраўка. Не? Ды па вам адразу бачна, што вы прынамсі ім спачуваеце».

Як на мой погляд, бачна па гэтай жанчыне было адно тое, што яна не пазбаўлена дасціпнасці.

Прадчуваючы цікавую размову, я дастаў дыктафон. Аж раптам дзядзька, дасюль упэўнены ў сабе, нахабна ўсмешлівы, пацямнеў з твару і замахаў рукамі: «Прыбярыце, прыбярыце! Ніякіх запісаў! На пытанні я адказваць не буду! Што, вы не разумееце? Ну, вы многа чаго яшчэ, мабыць, не разумееце».

## «Мы глядзім расійскае тэлебачанне і ведаем...»

Размаўляць пад запіс на адэскім Антымайдане чамусьці не хацеў не ён адзін. Нават беларус, якога прывялі да мяне ледзь не за шкірку, катэгарычна адмовіўся. З цяжкасцю я адшукаў маладога чалавека, каардынатара арганізацыі «Грамадзянскае сумленне», згоднага адказаць на пытанні.

Трэба заўважыць, хоць і не адразу, але я атрымаў шчырыя адказы. Найперш мяне цікавіла пытанне акупацыі Крыму і магчымага ўварвання расійскіх войскаў на мацярык. Прамым тэкстам аб гэтым у арганізацыйных паперах нічога не гаворыцца, але ў плане дзеянняў ёсць адзін цікавы пункт: «У выпадку сілавога разгону нашага мітынгу Расійская Федэрацыя, як найбліжэйшы наш саюзнік, мае права на ўзброеную абарону мірных грамадзянаў ад ультраправых тэрарыстычных груповак».

Мой суразмоўца шчыра абурыўся слову «акупацыя» ў дачыненні да Крыму: як гэта — назваць наш брацкі рускі народ акупантамі? Яны вызваліцелі! Ад каго? Ад «партыі ўкраў» — псеўданароду, штучна створанага ў лабараторыях Захаду. Мы б хацелі перамагчы «ўкраў» мірным шляхам, на рэферэндуме, і гэта лёгка можна было б зрабіць, каб нам не супрацьстаялі ўзброеныя тэрарысты. У нас няма сілаў з імі змагацца, тое маюць зрабіць падрыхтаваныя людзі. Натуральна, мы спадзяемся на дапамогу саюзных войскаў.

У нядзелю са сцэны ўжо галасна раздавалася: «Спачатку Крым, потым — Адэса!»

На мітынгу пахла густа заваранымі антыфашызмам. Дворнік Ніна Качаноўская, вядомая ў Адэсе як «міс барыкада», распавяла пра паход да германскага консульства з прэзерватывамі: «Фашысты не павінны нараджацца!» У натоўпе горача абмяркоўвалі пытанне генетыкі: «Толькі ў нас, у славянаў, сапраўдныя гены засталіся. А вось у французаў наогул ніякага генатыпу няма, размытае нешта. Таму яны нашых дзяцей і ўсынаўляюць».

Перад сцэнай лунаў сцяг з выявай Сталіна і подпісам: «Абаронца святой Русі».

Мне стала млосна, і я хутчэй пабег адсюль. Але мяне дагнаў чалавек, які папрасіў яго выслухаць і запісаць, бо ён ведае, «як вырашыць гэты канфлікт». Трэба тэрмінова данесці ягоную ідэю да Пуціна. Рашэнне аказалася сапраўды арыгінальным:

— Трэба забраць у іх, украінцаў, рускія літары і... гукі! Забараніць імі карыстацца. Калі вы такія незалежныя, вярніце! Што ў іх тады застанецца? Ыыыы, йііі, эээ, і ўсё. Паглядзім, як яны тады запляшуць...

Я ведаў, што еду ў няпростае і асабіста мне не вельмі блізкае асяроддзе. Таму завязаў перад дарогай свае перакананні ў вузельчык і пакінуў у камеры захоўвання, як раілі зрабіць мне блізкія ў мэтах бяспекі. Пагатоў, патрабаванне бесстароннасці і збалансаванасці для журналіста ніхто не адмяняў.

Відавочна, карціна адэскага грамадства атрымалася на карысць праціўнікаў федэралізацыі. Суворы прыхільнік балансу ў падачы матэрыялу можа сказаць, што мой артыкул тэндэнцыйны.

Шчыра скажу, я ненаўмысна. Для таго, каб карціна атрымалася іншай, мне б давялося падхарошваць адэскіх антымайданаўцаў, прыдумляць за іх разумныя аргументы, абгрунтаваныя матывы. Або проста нічога не пісаць пра Антымайдан.

Апроч бясконцых мантраў пра «бандэраўцаў», «брацкія народы» і «падступны Захад», я тут нічога і не пачуў. Дзіва што, калі амаль кожны адказ пачынаўся не са словаў «Я думаю», а з фразы: «Я гляджу расійскія тэлеканалы і ведаю...»




# Працэс пайшоў, вынік непрадказальны

**Умяшанне ва ўкраінскія падзеі — гэта рэакцыя палітычнай эліты Расіі на перадрэвалюцыйную смуту ва ўласнай краіне.**



Сяргей НІКАЛЮК

У чэрвені 1929 года пралетарскі пісьменнік Максім Горкі звярнуўся да сваіх калег з пытаннем: «З кім вы, майстры культуры?». У год Вялікага пералому пытанне мела на ўвазе два варыянты адказу: або з дзяржавай, або са следчымі АГПУ.

Пытанне Буравесніка рэвалюцыі па-ранейшаму актуальнае. Верагоднасць сустрэчы са следчымі і сёння зусім не роўная нулю. Тым не менш, яна мінімальная, чаго не скажаш пра шанцы застацца без ганару. І ў Расіі, і ў Беларусі сама магчымасць яго атрымання прама прапарцыйная ступені лаяльнасці да ўлады.

Лаяльнасць мае патрэбу ў пастаянным пацверджанні — такая ўжо яе прырода. Акупацыя расійскай арміяй Крыма дала Міністэрству культуры РФ дадатковы шанец аддзяліць вартых дзяржаўнага фінансавання дзеячаў культуры ад няВартых. Тэхналогія аддзялення простая, нібы граблі: міністэрства размясціла на сваім афіцыйным сайце ліст «Дзеячы культуры Расіі — у падтрымку пазіцыі прэзідэнта па Украіне і Крыме». На момант падрыхтоўкі гэтай «Азбукі паліталогіі» (16 сакавіка) яго падпісалі 512 чалавек.

Але ў чым палягае пазіцыя прэзідэнта Расіі? Звернемся да тэксту прэс-канферэнцыі, якую ён даў 4 сакавіка. Яго ключавое слова — «абарона»: *«Это соответствует нашим национальным интересам — защитить этих людей. И это гуманитарная миссия. Мы не претендуем на то, чтобы кого-то порабощать, кому-то диктовать что-то. Но, конечно, мы не сможем остаться в стороне, если увидим, что их начинают преследовать, уничтожать, подвергать издевательствам».*

Ісціна пазнаецца ў параўнанні. Набярэм у Google «Дагестан, цагельныя заводы, рабы». Уджо першая спасылка (www.pravda.ru) праінфармуе нас, што ў Дагестане каля 600 цагельных заводаў, і на кожным другім працуюць рабы. На адно прадпрыемства прыпадае ад 10 да 50 палонных. І без калькулятара зразумела, што колькасць рабоў ідзе на тысячы. Але ці ўваходзяць прымусовыя «спецыялісты» па вытворчасці цэглы ў лік *«этих людей»*, чыя абарона *«соответствует нашим национальным интересам»?* Пытанне рытарычнае.

## Аднагалосна і без абмеркаванняў

Прызнаюся, яшчэ за суткі да акупацыі Крыму я і ўявіць сабе не мог, што такое магчыма. Не, я не меў ілюзіяў наконт прыроды расійскай улады і грамадства. За гады, якія прайшлі пасля Перабудовы, яна прынцыпова не змянілася. Аднак прынцыпова змянілася ступень залежнасці расійскай эканомікі ад Захаду.

Ужо наколькі Савецкі Саюз быў самадастатковы, але шасціразовага падзення цэнаў на нафту ў 1985 годзе перажыць ён не змог. Аднак не гэта галоўнае. Савецкая партыйная эліта не скупляла нерухомасць на Блакітным Беразе і дзяцей сваіх на вучобу ў Оксфард і Кембрыдж не накіроўвала. Максімум, на што яна была здольная, дык гэта пасылаць сваіх нашчадкаў… у Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін і тым самым далучыць іх да заходняга ладу жыцця.

За два дзесяцігоддзі будаўніцтва рынку з расійскай спецыфікай палітычная эліта (у тым ліку і сілавікі) ператварылася ў агентаў камерцыйнага працэсу, у аснове якога ляжыць перараЗмеркаванне прыроднай рэнты. Сваю частку рэнты (халявы) атрымлівала і грамадства. «Абедзве групы, — паводле справядлівай заўвагі Юліі Латынінай, — адна, якая хоча адміністрацыйным рэсурсам пераразмяркоўваць на сваю карысць багацці краіны, і іншая, якая хоча халяву, — выдатна ўжываюцца адна з адной, яны проста падыходзяць адна да адной, як палавінкі аднаго арэха».

У працэсе стварэння прыроднай рэнты Захад адыгрывае ключавую ролю. Таму канфліктаваць з Захадам — усё роўна, што пілаваць сук, на якім сядзіш. І нягледзячы на відавочнасць аналогіі, Пуцін на канфлікт пайшоў. Самае простае тлумачэнне такіх нелагічных паводзінаў Пуціна прапанавала канцлер Германіі Ангела Меркель. Паводле інфармацыі «The New York Times», 2 сакавіка ў размове з прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам яна выказала меркаванне, што прэзідэнт Расіі страціў сувязь з рэальнасцю і «знаходзіцца ў нейкім іншым свеце».

Руская ўлада, пра прыроду якой я пісаў неаднаразова, не валодае механізмамі, што абмяжоўваюць волю першай асобы. Таму не варта здзіўляцца, што на зварот Пуціна наконт дазволу ўвесці войскі ў Крым Савет Федэрацыі адгукнуўся аператыўна і аднагалосна. І не важна, што за два дні да прыняцця рашэння старшыня Савета Федэрацыі Валянціна Матвіенка магчымасць акупацыі Крыму выключала. Я веру ў яе шчырасць. Пра спецаперацыю, якая рыхтавалася, яна магла і не ведаць. Статус чальца Савета бяспекі тут нічога не мяняе. У адпаведнасці са шматвяковай традыцыяй, лёсавызначальныя для краіны рашэнні першая асоба дзяржавы, як правіла, прымае ў нефармальнай абстаноўцы.




## Расійскі народ «за»

Але якім бы вузкім не было кола асобаў, што прынялі рашэнне, само гэтае рашэнне расійскае грамадства падтрымала. Мне могуць запярэчыць, што тут не абышлося без магутнай порцыі прапаганды. Сапраўды, гэта так. Не варта, аднак, перабольшваць ролю прапаганды. Якой бы масіраванай прапаганда не была, максімум, на што яна здольная, — гэта ўзмацніць настроі, якія ўжо ахапілі грамадства. Нічога не ўзнікае з нічога. Тут напрошваецца прамая паралель з каталізатарам: ён здольны паскарыць хімічную рэакцыю, але толькі пры наяўнасці адпаведных інгрэдыентаў.

7–8 сакавіка «Левада-цэнтр» правёў чарговае апытанне. Ён зафіксаваў пачатак пераходу расійскага грамадства са стану палітычнай апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння (эфект мабілізацыі). Узровень ухвалення дзейнасці Пуціна склаў 72% (65% у студзені). Індэкс правільнасці курса (розніца станоўчых і адмоўных ацэнак курсу развіцця краіны) за гэты ж перыяд павялічыўся з 2 да 21 адзінкі.

За прыняцце Крыма ў склад Расіі, калі за гэта прагаласуе насельніцтва паўвострава на рэферэндуме (хто б сумняваўся), у сакавіку 79% расіян выказаліся «так / хутчэй так». Віну за цяперашнне абвастрэнне сітуацыі ў Крыме 67% рэспандэнтаў усклалі на радыкальныя ўкраінскія нацыяналістычныя арганізацыі і толькі 2% — на кіраўніцтва Расіі.

У якасці каментара да вынікаў апытання прывяду цытату паліталага Уладзіміра Пастухова: «Крым — гэта кодавае слова ў рускай гістарычнай памяці. Таму Пуцін не проста паслаў войскі ў Крым. Ён павярнуў ключ запальвання ў нацыянальнай падсвядомасці, імгненна ўвеўшы насельніцтва велізарнай краіны ў стане афекту. Як толькі былі вымаўленыя сакральныя словы «Крым» і «вайна», у душах дзясяткаў мільёнаў людзей уключыўся «асноўны інстынкт» і пачуўся «роў племені». І зараз гэты «роў племені» стаў аб'ектыўным фактарам, што вызначае грамадска-палітычную абстаноўку ў краіне».

На працягу амаль трох дзесяцігоддзяў вялізная прастора ад Балтыйскага мора да Ціхага акіяна аказалася вольнай ад ідэалогіі. Спробы дамарослых лібералаў з дапамогай заходніх спонсараў запоўніць ідэалагічны вакуум ідэямі дэмакратыі і рынкавай эканомікі чаканага выніку не прынеслі.

Па-ранейшаму большасць расіян аддаюць перавагу савецкай палітычнай сістэме — 39% (студзень 2014 года). Дэмакратыю як лепшы ўзор разглядае 21% апытаных, колькасць прыхільнікаў цяперашняй палітычнай сістэмы стабільна і трымаецца на адным узроўні — 19%. Лаяльнасць да савецкай мадэлі павышаецца на фоне крызісных сітуацый пры адначасовым захаванні непрымання большай часткай насельніцтва заходняй дэмакратыі.

Спробы «западэнцаў» адгарадзіцца ад «рускага лёсу» на Майдане нечакана актывізавалі ў Расіі настроі, якія можна характарызаваць як адказнасць за «рускі лёс». У раскрадзенай краіне, у краіне, фактычна падзеленай мясцовымі элітамі на ўдзельныя княствы, ідэалагічны вакуум нечакана стаў запаўняцца ідэалогіяй, сутнасць якой можна перадаць словамі: «Мы рускія!».

## Эфект зрушанай рэакцыі

Гісторык Аляксандр Ахіезер увёў у гуманітарную навуку паняцце «крок навізны». Магчымасці любой сацыяльнай сістэмы засвойваць інавацыі абмежаваныя. Калі ў сілу якіх-небудзь прычын крок навізны перавышае дапушчальны ўзровень, то ў грамадстве пачынаецца рост унутраных напружанняў. У расколатых грамадствах (беларускі, расійскі і ўкраінскі выпадкі) пазітыўныя кашто ўнасці адной часткі грамадства (напрыклад, каштоўнасці мадэрнізацыі) становяцца негатыўнымі каштоўнасцямі для большасці насельніцтва.

Колькасць негатыву ў Расіі хавалася на працягу дваццаці гадоў. Працэс гэты не быў прамалінейны. У «тлустыя нулявыя» ён прытармазіў. Але ў 2009 годзе, які завяршыўся зніжэннем ВУП на 7,8%, прагучаў першы званок. Ні эліты, ні грамадства яго не пачулі.

Мільёны рускіх жылі на Украіне, і нікога ў Расіі іх лёс не цікавіў, як нікога не цікавіў і не цікавіць лёс тысяч рускіх рабоў у Дагестане. Але сітуацыя стала развівацца лавінападобна пасля таго, як на тэрыторыі Украіны паўстала альтэрнатыва «саўка». У вачах расіян братэрскі ўкраінскі народ тут жа падзяліўся на сваіх і фашыстаў-бандэраўцаў.

Псіхолагам добра вядомы эфект зрушанай рэакцыі, калі ламаюць мэблю, хоць незадаволеныя сямейным жыццём. Умяшанне Расіі ва ўкраінскія падзеі выкліканае не столькі знешнімі прычынамі, колькі прычынамі ўнутранымі. Агрэсія — гэта рэакцыя палітычнай эліты Расіі на перадрэвалюцыйныя смуту ва ўласнай краіне.

На думку Пастухова, «Пуцін запусціў у Расіі рэвалюцыйны працэс, арганізаваўшы падпал «крымскага рэйхстага». Ён вырашыў не чакаць, пакуль хтосьці паставіць пад пытанне аўтарытарную легітымнасць існуючай улады, а стаў сам разбураць яе па ўласнай ініцыятыве, каб замяніць новай таталітарнай легітымнасцю. Вынікам гэтага працэсу стане змена грамадскага ладу сучаснай Расіі (калі, вядома, усё будзе даведзена да канца)».

Але чалавек плануе, а Бог здзяйсняе. Сучаснае расійскае грамадства не здольнае знаходзіцца ў стане мабілізацыі на працягу доўгага часу. Стан палітычнага ўздыму пройдзе, а ўстойліва развіваць эканоміку ва ўмовах канфрантацыі з Захадам яшчэ нікому не ўдавалася.



## 24 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Камедыя «Падкідыш» (СССР).
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.10** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».
**13.10** Музычная камедыя «Вяселле ў Малінаўцы» (СССР).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Нацыянальны адбор.
**15.30** Баявік «Анёлы Чарлі-2» (ЗША).
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**00.05** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Фантастычны трылер «Суддзя Дрэд» (Вялікабрытанія - ЗША).

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.00** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** Канцэрт беларускіх удзельнікаў тэлепраекта «Голас».
**23.35** Прэм'ера. Фільм «Выспа».
**01.30** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.40** «Такі лёс».
**12.30** «Сямейныя драмы».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.45** «Глядзець усім!».
**16.15** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Прызнайце мяне вінаватым». ЗША - Германія, 2006г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.04** «Тэлебарометр».
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага».
**10.10** «Тэлебарометр».
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.53** «Тэлебарометр».
**11.55** Серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**13.55** Музычная камедыя «Беражыце жанчын» (СССР).
**16.25** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага».
**18.54** «Тэлебарометр».
**18.55** Дэтэктыў «Гульня на выбыванне» .
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** «Тэлебарометр».
**21.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.05** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**23.55** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.40, 15.05, 17.10, 00.50** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Бокс.
**08.15** Дзіцячы фільм. «Чатыры ноль на карысць Танечкі».
**09.40** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.10** Серыял. «Мегрэ».
**11.00** «Свята далёкай зоркі». Памяці кампазітара Леаніда Смялкоўскага.
**11.25** «Размаўляем па-беларуску».
**11.35** «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дак. фільм пра творчасць кінарэжысёра, народнага артыста Расіі Мікалая Бурляева.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.50** «Скарбніца Міншчыны». Гісторыя, культура і архітэктура мястэчка Даўгінава.
**13.15** «Карані». Скіт у Адрынках. Дзейнасць архімандрыта Гаўрыіла.
**13.45** «Палескі пачастунак».
**14.00** «Дэбют». Мастацкі фільм.
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.35** «Лабірынты». Першадрукар І.Федараў.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.15** «Вялікай Перамогі салдаты». Дакументальны фільм пра жыццё ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Кузьмы Клімава.
**15.45** «Цуды прыроды». Шатландыя. Байкал. Андалузія.
**16.10** «У рэзху імені твайго...» Пра жонку Васіля III Алену Глінскую.
**16.25** «Размаўляем па-беларуску».
**16.30** «Любоў і жыццё маё...». Дак. фільм пра кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.15** «Зроблена!» Кінавытворчасць.
**17.45** «Падарожжа са смакам». Барселона.
**18.15** «Наша спадчына». Пахавальня ў Суботніках.
**18.30** «Высокая кроў». Мастацкі фільм.
**19.50** «Размаўляем па-беларуску».
**20.00** Серыял. «Залатое цяля». Паводле аднайменнага твору І.Ільфа і Я.Пятрова. 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.30** «Памылка інжынера Кочына». Мастацкі фільм.
**00.15** «Свята далёкай зоркі». Памяці кампазітара Леаніда Смялкоўскага.
**00.40** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ телеканал

**07.00, 08.00** Раніца Расіі.
**10.00** Карціна свету.
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** Прамы эфір.
**12.45** Тэлесерыял «Чужы твар».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.25** Навіны-Беларусь.
**14.30** Дыялог са смерцю.
**15.35** Пра самае галоўнае. Ток-шоў.
**17.10** Тэлесерыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Блудныя дзеці».
**20.45** Тэлесерыял «Ластаўчына гняздо».
**21.45** Тэлесерыял «Там, дзе ты».
**00.35** Прэм'ера. Сакрэтныя матэрыялы: ключы ад даўгалецця.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**08.00** Форум (ток-шоу): Знайсці сябе.
**08.45** Фітнес-шмітнес.
**09.10** Два на два (тэледыскусія).
**09.40** Дакументальная гадзіна: «Дакументаліст», дак. фільм, 2012 г., Латвія.
**10.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 6 серыя.
**12.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.50** Два на два (тэледыскусія).
**13.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**13.55** Форум (ток-шоу): Знайсці сябе.
**14.45** Фітнес-шмітнес.
**15.05** «Фэмэн. Аўтапартрэт», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**16.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.30** «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**18.00** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 6 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.10** «Затока», дак. фільм, 2009 г., ЗША.
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).

## 25 САКАВІКА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**11.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**11.55** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Нацыянальны адбор.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.55** Дзень спорту.
**01.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.00** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Фільм «З пекла».
**01.20** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Ежа багоў».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Каханне ў вялікім горадзе». Расія-Украіна, 2009г.
**15.30** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Барсаліна». Францыя - Італія.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Кармэн». Іспанія, 1959г.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.04** «Тэлебарометр».
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага».
**10.10** «Тэлебарометр».
**10.10** «Беларуская кухня». Выпуск №.
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.55** «Тэлебарометр».
**12.00** Дэтэктыў «Гульня на выбыванне».
**13.55** «Пад грыфам «Вядомыя».
**14.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**16.00** «Вышэй за дах».
**16.33** «Імперыя песні».
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага» .
**18.54** «Тэлебарометр».
**18.55** Дэтэктыў «Гульня на выбыванне» .
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** «Тэлебарометр».
**21.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 1\8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**00.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.45, 15.05, 17.05, 00.15** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Кулявая стральба.
**08.15** Серыял «Залатое цяля». Паводле аднайменнага твору І.Ільфа і Я.Пятрова. 1-я серыя.
**09.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**09.30** Серыял. «Мегрэ».
**10.25** «Свята далёкай зоркі». Памяці мастака Віктара Ганчарэнкі.
**10.50** «Размаўляем па-беларуску».
**10.55** «Памылка інжынера Кочына». Мастацкі фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.55** «Плошча мастацтваў». Актрыса Тамара Нікалаева.
**13.20** «Падарожжа са смакам». Мальта і Гоза.
**13.55** «Наша спадчына». Жалудоцкі палац.
**14.20** «Размаўляем па-беларуску».
**14.25** «Адлюстраванні». Францішка Урсула Радзівіл.
**14.45** «Кавалеры рэк, балот і лясоў». Навукова-папулярны фільм.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.15** «Карані». Канстанцін Грамыка - беларус, які жыве ў Санкт-Пецярбурзе.
**15.45** «Шчасце Алены». Дак. фільм пра сцэнарыста і рэжысёра Алену Тураву.
**16.05** «Скарбніца Магілёўшчыны».
**16.35** «Размаўляем па-беларуску».
**16.40** «Імгненне вечнасці». Перакладчыца, паэтэса Надзея Вольпін і Сяргей Ясенін. Жыццё і каханне.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.15** «Цуды прыроды». Вялікабрытанія. Казахстан. Кітай. Чэхія.
**17.45** «Настальжы». Кампазітар Людміла Шлег.
**18.10** «Глыбокае». Дакументальны фільм пра адзін з старадаўніх гарадоў Беларусі.
**18.20** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Міхася Лынькова.
**18.45** «Палескі пачастунак».
**18.55** «Струны прасторы і часу». Дак. фільм пра генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі У. Пракапцова.
**19.25** «Добры дзень, мае дарагія!» Франтавая перапіска Сяргея Пятровіча Каткова - мастака-педагога.
**19.50** «Размаўляем па-беларуску».
**20.00** Серыял «Залатое цяля». 2-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Песня пра зубра». Мастацкі фільм паводле паэмы М.Гусоўскага.
**23.40** «Свята далёкай зоркі». Памяці мастака Віктара Ганчарэнкі.
**00.05** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ телеканал

**07.00, 08.00** Раніца Расіі.
**10.00** Адмысловы выпадак.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** Прамы эфір.
**12.45** Тэлесерыял «Чужы твар».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.25** Навіны-Беларусь.
**14.30** Зніклая субмарына. Трагедыя К-129.
**15.35** Пра самае галоўнае. Ток-шоў.
**17.10** Тэлесерыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Блудныя дзеці».
**20.45** Тэлесерыял «Ластаўчына гняздо».
**21.45** Тэлесерыял «Там, дзе ты».
**00.35** Адмысловы карэспандэнт.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 13.55** Асабісты капітал.
**08.55, 14.15** Аб'ектыў.
**09.40** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.40, 16.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Францішак Савіч.
**10.50, 16.15** «Каханне ў падземным пераходзе», камедыя, 2006 г., Польшча.
**11.50, 17.15** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**15.05** Відзьмо-невідзьмо.
**15.30** Два на два (тэледыскусія).
**17.45** Дакументальная гадзіна: «Дакументаліст», дак. фільм, 2012 г., Латвія.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Цішкі».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.40** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Культура. Адказнасць. СМІ».
**22.10** «Лонданцы», серыял: 10 серыя.
**22.55** Форум (ток-шоу): Знайсці сябе.
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.25** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**01.45** Аб'ектыў.
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Культура. Адказнасць. СМІ».



## 26 САКАВІКА, СЕРАДА



**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слова Мітрапаліта Т. Кандрусевіча.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**11.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**11.55** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Нацыянальны адбор.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі» .
**13.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**23.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.00** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Баявік «Падлоўчы».
**01.10** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Барсаліна». Францыя - Італія, 1970г.
**16.05** «Уявіце сабе».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Прабач за каханне». Італія, 2008г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».

**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.04** «Тэлебарометр».
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага».
**10.10** «Тэлебарометр».
**10.15** Заўтра - гэта мы!
**10.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.50** «Тэлебарометр».
**11.55** Дэтэктыў «Гульня на выбыванне» (Расія).
**13.45** «Пад грыфам «Вядомыя».
**14.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**14.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**15.50** Рэпарцёр.
**16.40** «На шляху да чэмпіянату свету па футболе 2014».
**17.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**18.00** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага».
**18.55** «Тэлебарометр».
**19.00, 20.15** Дэтэктыў «Гульня на выбыванне».
**21.25** «Тэлебарометр».
**21.35** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 1\8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА.
**01.10** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».



**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.20, 15.10, 17.05, 00.25** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Плаванне.
**08.15** «Размовы пра духоўнае».
**08.25** Серыял «Залатое цяля». 2-я серыя.
**09.15** «Знакі лёсу. Віктар Казько». Дак. фільм.
**09.45** Серыял. «Мегрэ».
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанай артысткі БССР Ганны Рыжковай.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Песня пра зубра». Мастацкі фільм паводле паэмы М.Гусоўскага.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.30** «Размовы пра духоўнае».
**12.40** «Плошча мастацтваў». Кампазітар Андрэй Мдзівані.
**13.10** «Цуды прыроды». Лапландыя. Альпы. Францыя. Гібралтар.
**13.40** «У рэху імені твайго...» Пра жыццё жонкі князя Міндоўга - Марты.
**13.50** «Востраў». Дакументальны фільм пра творчасць расійскага рэжысёра Паўла Лунгіна.
**14.10** «Музеум». Выданні Скарыны.
**14.25** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** «Эцьен. Вяртанне». Дакументальны фільм пра лёс разведчыка Льва Маневіча.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.20** «Размовы пра духоўнае».
**15.30** «Падарожжа са смакам». Францыя.
**16.00** «Наша спадчына». Палац у Дзятлаве. 1-я і 2-я часткі.
**16.25** «Размаўляем па-беларуску».
**16.30** «Творцы». Народны артыст Беларусі, рэжысёр Канстанцін Саннікаў.
**16.55** «Калейдаскоп».
**17.15** «Размовы пра духоўнае».
**17.25** «Адкрыццё». Пісьменнік А. Адамовіч.
**17.50** «Палескі пачастунак». Пірог са шчаўем і запечаны шчупак.
**18.05** «Карані». Музей у Скарышэва.
**18.30** «Госць». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Я.Сіпакова.
**19.00** «Магія дрэва». Навукова-папулярны фільм.
**19.15** «Скарбніца Берасцейшчыны». Дагукацца да нябёсаў. Камянецкая вежа.
**19.40** «Росчырк часу». Фотамастак Мірон Шчудло.
**19.55** «Размаўляем па-беларуску».
**20.00** Серыял «Залатое цяля». 3-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Знакі лёсу. Віктар Казько». Дак. фільм.
**22.35** «Нашы суседзі». Мастацкі фільм.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанай артысткі БССР Ганны Рыжковай.
**00.20** «Калейдаскоп».



**07.00, 08.00** Раніца Расіі.
**10.00** Адмысловы выпадак.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** Прамы эфір.
**12.45** Тэлесерыял «Чужы твар».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** Шум зямлі.
**15.35** Пра самае галоўнае. Ток-шоў.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** Тэлесерыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Блудныя дзеці».
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.45** Тэлесерыял «Ластаўчына гняздо».
**21.45** Тэлесерыял «Там, дзе ты».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**00.40** Прэм'ера. Таямніца трох акіянаў.



**07.00, 09.25, 12.40, 15.10, 23.55, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.40** Без межаў.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.45** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Культура. Адказнасць. СМІ».
**10.10** Відзьмо-невідзьмо.
**10.40** Моўнік: Дзе мы купляем?
**10.50** Назад у будучыню.
**11.05** Форум (ток-шоў): Знайсці сябе.
**11.50** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Фокслі».
**14.25** Без межаў.
**14.40** Аб'ектыў.
**15.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Культура. Адказнасць. СМІ».
**15.55** Відзьмо-невідзьмо.
**16.25** Форум (ток-шоў): Знайсці сябе.
**17.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Фокслі».
**18.00** «Лонданцы», серыял: 10 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** «Шлях да сябе», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.05** «Парадокс», серыял: 11 серыя.
**22.50** «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.50** Аб'ектыў.
**02.40** «Шлях да сябе», рэпартаж, 2014 г.

## 27 САКАВІКА, ЧАЦВЕР



**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**11.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо» .
**11.55** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Нацыянальны адбор.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.00** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Фільм «Асса».
**02.00** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Прабач за каханне». Італія.
**15.55** «Глядзець усім!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон 5». ЗША, 2002г.
**22.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Сунічная паляна». Швецыя, 1957г.

**07.00** Раніца на тэлеканале Беларусь 2.
**09.04** «Тэлебарометр».
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага» .
**10.10** «Тэлебарометр».
**10.15** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.20** «Тэлебарометр».
**11.25** Дэтэктыў «Гульня на выбыванне» (Расія).
**13.20** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**14.25** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.50** «Аўтабатл».
**16.25** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага».
**17.25** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.59, 22.59** «Тэлебарометр».
**19.00** Псіхалагічны дэтэктыў «Гульня на выбыванне» (Расія).
**20.52** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1\8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1\8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**01.00** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».



**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.10, 14.55, 17.00, 21.05, 00.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.20, 15.05, 17.05, 00.05** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Валейбол.
**08.15** Серыял «Залатое цяля». 3-я серыя.
**09.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**09.30** Серыял «Мегрэ».
**10.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Віктара Шавялевіча.
**10.50** «Размаўляем па-беларуску».
**10.55** «Нашы суседзі». Мастацкі фільм.
**12.30** «Карані». Барыс Казлоўскі і яго вяскова музей.
**12.55** «На прыродзе з Віталём Гуменным». Выганашчанскія балоты.
**13.10** «Скарбніца Віцебшчыны». Маёнтак роду Лапацінскіх.
**13.40** «Палескі пачастунак». Салёнае сала.
**13.55** «Збянтэжаны Саўка». Кароткаметражны фільм паводле п'есы Леапольда Радзевіча.
**14.25** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** «Лабірынты». «Над дняпроўскай стромай». Жыццё і творчасць Янкі Купалы.
**15.15** «Васіль Корж. Урокі жыцця». Дак. фільм пра партызана, Героя Савецкага Саюза.
**15.45** «Музеум». Урэцка-Налібокскае шкло.
**16.00** «Цуды прыроды». Патагонія, Венгрыя. Беліз. Новая Зеландыя.
**16.25** «Размаўляем па-беларуску».
**16.35** «Партрэт на фоне сябе». Творчасць мастака Уладзіміра Цэслера.
**17.15** «Гісторыя аднаго горада». Дакументальны фільм пра мінулае горада Мінска.
**17.45** «Сямейны альбом». Жыццё і творчасць кінарэжысёра Міхаіла Пташука.
**18.00** «Падарожжа са смакам». Тайланд.
**18.30** «Наша спадчына». Пінскія святыні. 1-я і 2-я часткі.
**19.00** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дакументальны фільм пра мастака, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**19.25** «Камертон». Гітарыст, народны артыст Расіі Аляксей Кузняцоў.
**19.50** «Размаўляем па-беларуску».
**20.00** Серыял «Залатое цяля». 4-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.10** Серыял «Мегрэ».
**21.50** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.20** «Навучыся танцаваць». Маст. фільм.
**23.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Віктара Шавялевіча.



**07.00, 08.00** Раніца Расіі.
**10.00** Адмысловы выпадак.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** Прамы эфір.
**12.45** Тэлесерыял «Чужы твар».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** Прэм'ера. Град асуджаны.
**15.35** Пра самае галоўнае. Ток-шоў.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** Тэлесерыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Тэлесерыял «Блудныя дзеці».
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.45** Тэлесерыял «Ластаўчына гняздо».
**21.45** Тэлесерыял «Там, дзе ты».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**00.40** Прэм'ера. Лёгкае дыханне Івана Буніна.



**07.00, 09.20, 14.50, 23.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40, 15.10** «Шлях да сябе», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**10.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма) «Культура. Адказнасць. СМІ».
**10.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.00** «Парадокс», серыял: 11 серыя.
**11.45** «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**12.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.20** Аб'ектыў.
**15.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма) «Культура. Адказнасць. СМІ».
**15.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.20** «Парадокс», серыял: 11 серыя.
**17.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзе мы купляем?
**17.20** «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.00** «Час гонару», серыял: 47 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** «Рэп па-арабску», дак. фільм, 2011 г., Канада.
**23.10** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 12 серыя.
**01.30** Рэпартэр.
**01.55** Аб'ектыў.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.45** Два на два (тэледыскусія).

# Крым перашкаджае каталонцам

**Падзеі на Крымскім паўвостраве здольныя пахаваць надзеі каталонцаў і шатландцаў на тое, каб атрымаць незалежнасць.**

Алег НОВІКАЎ




Прыблізна ў сярэдзіне 1990-х гадоў падчас візіту ў Каталонію мне давялося сустракацца з мясцовымі незалежнікамі. Яны ў захапленні каментавалі парад суверэнітэтаў на тэрыторыі былога СССР як доказ таго, што ідэя незалежнай Каталоніі — не фантастыка. Але тое, што зараз адбываецца ў Крыме, калі меркаваць па публікацыях у прэсе, ніякай эйфарыі ў каталонцаў не выклікае. Крым стаў важнай часткай прапаганды праціўнікаў незалежнасці Каталоніі, прычым усяго за паўгады да рэферэндуму па гэтым пытанні.

Бадай, ніколі яшчэ афіцыйны Мадрыд так не цікавіўся тым, што адбываецца ва Украіне. Па ініцыятыве іспанскага ўраду Еўрасаюз нават уключыў тэкст рэзалюцыі па Крыме такі пункт: «Аўтаномная Рэспубліка Крым можа арганізоўваць рэферэндум толькі па лакальных пытаннях, але не аб змене тэрытарыяльнага складу Украіны».

Такая фармулёўка яскрава сведчыць, што суверэнітэт Украіны па сутнасці іспанцам абыякавы. Проста з'явілася магчымасць працягнуць паралель паміж плебісцытам у Крыме і заяўленым на восень рэферэндумам аб незалежнасці Каталоніі. Паколькі крымская аперацыя Пуціна не карыстаецца падтрымкай большасці іспанцаў, яе цень таксама так ці інакш падае на ініцыятыву каталонскіх нацыяналістаў. І перш за ўсё, аспрэчвае агучаную ў Барселоне ідэю пра тое, што менавіта каталонцы павінны вырашаць лёс краю. Мадрыд з такой трактоўкай не згодны і лічыць, што даць Каталоніі свабоду можа выключна агульнаіспанскі рэферэндум.

Кампраметаваць каталонцаў іспанскім дзяржаўнікам дапамагае змрочная фігура Пуціна, які стаіць за падзеямі ў Крыме. Блізкая да ўраду газета «El Mundo» піша: «Нацыяналісты ў Каталоніі і Крыме робяць стаўку на паняцце «ўнутраныя справы» і прынцып неўмяшання. Прынцып, які з жахлівай яснасцю пачалі дэманстраваць снайперы з Майдана, а кульмінацыяй якога стала акупацыя Крыма дэспатам, што ў лепшых савецкіх традыцыях адгукаецца на просьбы аб дапамозе, нават на надуманыя». Выданне «ABC» пужае чытачоў палітычна-прававо дэстабілізацыяй у Іспаніі, аналагічнай украінскай, чыннікам якой, паводле газеты, стала менавіта ініцыятыва пра аддзяленне Крыму. Самыя вялікія фантазёры

## Глабальная прага суверэннасці

ад палітыкі лічаць, што Пуцін абавязкова скарыстаецца галасаваннем у Каталоніі, каб увесці сюды свае войскі, на штыках якіх будзе трымацца каталонская незалежнасць.

Прыдумляць такія казкі Мадрыду дапамагае Масква. Чамусьці маскоўскія піяршчыкі лічаць, што крымскі сепаратызм абавязкова знойдзе падтрымку ў той жа Каталоніі. «Ніхто ў Еўропе з такім інтарэсам не назірае за падзеямі на паўвостраве Крым, як жыхары правінцыі Каталонія ў Іспаніі», — паведамляе дзяржаўнае расійскае агенцтва «Voice of Russia». Яшчэ далей пайшоў новы крымскі міністр Дзмітры Палонскі. Практычна ўсе мадрыдскія СМІ працытавалі яго рэмарку пра тое, што крымчане «абавязкова падзеляцца з шатландцамі і каталонцамі паспяховым вопытам правядзення рэферэндумаў аб незалежнасці».

На гэтым фоне практычна не чувацъ заяў экспертаў, якія лічаць, што прыцягнутая за вушы да Іспаніі сітуацыя ў Крыме хутчэй дэманструе слабасць аргументаў іспанскіх дзяржаўнікаў.

Так ці інакш, сітуацыя не на карысць аматараў каталонскай дзяржаўнасці. На думку некаторых аглядальнікаў, заняўшы жорсткую пазіцыю адносна Крыму, кіраўніцтва ЕС будзе вымушана таксама асудзіць рэферэндум у Каталоніі. Прынамсі, вядомае рэйтынгавае агенцтва «Moody's» у кантэксце апошніх падзей выдала прагноз пра тое, што рэферэндум у Каталоніі, з улікам навін з Крыму, увогуле малаверагодны. Калі верыць піяршчыкам, як мінімум на тры гады ідэя абвяшчэння незалежнасці будзе адкладзеная. Калі ўвогуле праз тры гады нехта захоча размаўляць на гэтую тэму, з улікам таго, што інтарэс да незалежнасці быў шмат у чым справакаваны эканамічным крызісам, які, быццам, паціху адступае.

Каталонцы апынуліся ў вельмі складанай сітуацыі. Фактычна за паўгода да рэферэндуму ім патрэбна ўносіць значныя карэктывы ў свае рэкламныя праспекты. Напрыклад, каталонскае выданне «El Punt Avui» адзначае, што арганізатары апытання павінны давесці, што суверэнітэт Каталоніі будзе спрыяць стабільнасці еўрапейскай сістэмы бяспекі.

Ударыў Крым і па пазіцыях шатландскіх нацыяналістаў. Але ў іх сітуацыя трошкі лепшая. Паколькі рэферэндум у Шатландыі і ў Крыме — гэта дзве вялікія розніцы. Менавіта на гэта і робяць акцэнт незалежнікі. Грамадскасці (у тым ліку міжнароднай) тлумачаць, што рашэнне пра рэферэндум у Шатландыі было прынятае дэмакратычна абраным парламентам у адпаведнасці з усімі працэдурамі, у адрозненні ад Крыму. У Шатландыі брытанскія вайсковыя базе не аточаныя шатландскімі «сіламі самаабароны». Таксама ніхто ў Эдынбургу не адключаў трансляцыю лонданскіх каналаў. Больш таго, Алекс Салманд, прэм'ер Шатландыі, абяцае, што ў выпадку атрымання незалежнасці яго краіна застанецца самым верным саюзнікам Вялікабрытаніі па ўсіх пытаннях знешняй палітыкі.

Рэакцыя Лондана таксама не падобная на ўчынкі кіеўскай улады, якая не толькі забараніла рэферэндум, аднак і скасавала дэкларацыю аб крымскай аўтаноміі 1992 года, а сам парламент увогуле распусціла. Урад Дэвіда Кэмерана пагадзіўся на правядзенне апытання пра незалежнасць Шатландыі і гатовы прызнаць яго вынікі. Відавочна, што вынікі плебісцыту прызнае таксама Брусэль.

Адным словам, сапраўды, экстрапаліраваць сітуацыю ў Крыме на Шатландыю нельга. Аднак гэта думка палітолагаў і журналістаў. А што думаюць простыя выбаршчыкі, пакуль не вядома. Рэпартажы з Крыму, у якіх паказваюць узброеных людзей і ваяўнічыя выступы палітыкаў, наўрад ці падабаюцца абывацелям. Увогуле, адпаведна апытанням, якія былі праведзеныя да пачатку вядомых працэсаў у Крыме, за незалежнасць збіраліся аддаць голас 34 працэнты жыхароў Шатландыі. 57 працэнтаў выказаліся за тое, каб край застаўся ў складзе Аб'яднанага каралеўства.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Мірашнічэнка



Дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны ад партыі «Свабода» выклікаў буйны скандал, які ўдарыў па рэйтынгу новага рэжыму ва Украіне. 18 сакавіка тузін сяброў партыі «Свабода» пад яго кіраўніцтвам прыбылі ў штаб-кватэру Першага нацыянальнага тэлеканала Украіны, уварваліся ў кабінет дырэктара, сілай пасадзілі яго ў крэсла і пабілі, у тым ліку і за тое, што ён «маскалюка». Затым пацярпелага пасадзілі ў джып і павезлі ў невядомым кірунку. Да сур'ёзнай расправы справа не дайшла. Прэзідэнта НТКУ адпусцілі, прымусіўшы напісаць заяву аб адстаўцы. Але збіццё здымалі на відэа, якое пасля выклалі ў сеціва на радасць райскім СМІ, што адразу пачалі смакаваць «дэмакратыю па-украінску». На думку шмат каго, Мірашнічэнка збіваў дырэктара НТКУ перад камерамі не выпадкова. Кажуць, што «Свабода» з'яўляецца агентам Крамля, задача якой — пужаць сваімі выхадкамі рускамоўных украінцаў і кампраметаваць новы ўрад. Некаторыя СМІ і палітыкі нават заклікалі за забароны «Свабоды». У справу быў вымушаны ўмяшацца прэм'ер Арсень Яцанюк, які асудзіў выхадку Мірашнічэнкі. А старшыня «Свабоды» Алег Цягнібок нават паабяцаў аддаць удзельнікаў бойкі ў суд.

### Барыс Джонсан



Мэр Лондану ад партыі кансерватараў збіраецца выставіць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні партыі. Такім чынам, ён можа павесці партыю на парламенцкіх выбарах у наступным годзе і, у выпадку поспеху, заняць Даўнінг-Стрыт, 10 (рэзідэнцыя брытанскага прэм'ера). Але ёсць адна праблема. Справа ў тым, што, паводле канонаў англійскай палітычнай традыцыі, звычайна партыйнага правадыра абірае парламенцкая фракцыя, а Джонсан як бургамістр мандата не мае. Як піша прэса, Джонсан патрабуе, каб у дадзеным выпадку аднапартыйцы змянілі правілы і дазволілі яму балатавацца на пасаду старшыні. У такім выпадку Дэвіду Кэмерану, цяперашняму прэм'еру і лідару торы, будзе нялёгка захаваць сваю пасаду. Джонсан зарэкамендаваў сябе вельмі добрым адміністратарам (дастаткова згадаць лонданскую Алімпіяду 2012 года). Сам Джонсан пакуль кажа, што ў яго няма прэм'ерскіх амбіцый. Між тым, прэса не верыць у такія заявы і піша, што мэр толькі чакае моманту, каб падсядзець Кэмерана.

### Моніка Грутэрс



Міністр культуры Германіі сутыкнулася з незвычайнай праблемай. Ёй трэба кудысьці падзець рэшткі каля 10 тысяч шкілетаў, якія знаходзяцца ў розных антрапалагічных музеях і шпіталях Германіі. Гэта не проста косткі, а прадметы медычных эксперыментаў, якія прыцягнулі ў Германію з Афрыкі ў часы каланіялізму. Цяпер, як гэтага патрабуе спецыяльная рэзалюцыі ААН, тыя косткі маюць быць перададзеныя ўладам былых нямецкіх калоній у Афрыцы (Танзанія, Намібія і частка Камеруну). Аднак некаторыя афрыканскія чыноўнікі не ў захапленні ад ідэі шукаць сродкі на іх пахаванне і ідэнтыфікацыю. Пакуль толькі Намібія пагадзілася прыняць партыю такіх шкілетаў, і тое ў колькасці 21 адзінкі. Лічыцца, што гэтыя фрагменты належалі чальцам плямені Герэра, удзельнікам славутага антынямецкага паўстання. Адначасова ўзнікла праблема таго, што некаторыя музеі, і асабліва ўладальнікі прыватных калекцый, не жадаюць аддаваць экспанаты. Пакуль Грутэрс спрабуе праз перапіску пераканаць уладальнікаў костак аддаць іх міністэрству, партыя «Левыя» ў Бундэстагу выступіла з радыкальнай ініцыятывай. Пад пагрозай крымінальнай адказнасці канфіскаваць усе шкілеты, сабраць іх у адным месцы, ідэнтыфікаваць і пачаць паступова перадаваць афрыканцам.

# Дух яго не зламалі

## З успамінаў Міколы Канаша

**Напачатку 1990-х гадоў я пазнаёміўся з вязнем сталінскіх лагераў Міколам Канашам (1926–2006) са Жлобіна, перапісваўся з ім, пытаўся ў яго пра Ларысу Геніюш, Васіля Супруна, Тодара Лебяду і іншых беларускіх паэтаў, якія прайшлі ГУЛАГ. Аднойчы спытаў і пра сябра Саюза вызвалення Беларусі Віталя Губарэвіча.**



Сяргей ЧЫГРЫН

### Каб пачулі іх людзі

Спадар Мікола хутка даслаў адказ: «Віталя Губарэвіча я сустракаў толькі ў зняволенні, захаваў каля двух дзясяткаў ягоных вершаў з тых часоў. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр дзесьці ў сябе на радзіме ў сярэдзіне ці пачатку 1970-х гадоў. Ведаю, што ў яго жывая яшчэ маці...».

Я адразу адказаў на ліст Міколу Канашу, дзе прыгадаў, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы. А ў адказ спадар Мікола паведаміў (ліст ад 11 красавіка 1994 года, усе пісьмы ад Міколы Канаша захоўваюцца ў аўтара гэтых радкоў — С.Ч.): «Скуль вы ведаеце, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы? Я вам даслаў толькі адзін, прысвечаны Ларысе Геніюш. Але я не сказаў бы, што вершы Губарэвіча вельмі добрыя, пісаў ён іх у лагеры экспромтам, захаваць магчымасці добрай не меў. Ён казаў мне, што ўсуне ў бутэльку і закапае, магчыма, нехта натрапіць. Але шансу на гэта не было ніякага. Таму ўзяў я іх сабе, перачытаў і, лепшыя на мой погляд вывучыў на памяць, іншыя — прыхаваў у шахце. І толькі пасля выхаду на волю пачаў прыводзіць да парадку. І, такім чынам, што захаваў, тое маю і сёння. Усе іншыя, відаць, прапалі, як ён пісаў сам. І ўсё ж, вядома, мне хацелася нейкім чынам зрабіць так, каб пачулі іх людзі. Я стараўся падобнае рабіць, але поўнай галоснасці дасягнуць так і не змог. Па-першае, вершы неабходна яшчэ адшліфаваць і толькі потым пусціць у друк, а гэта не так і проста. Па-другое, ёсць у Губарэвіча вершы і на рускай мове, значыць, іх трэба перакласці на нашу родную мову...»

Пытаўся пра Віталя Губарэвіча пры жыцці ў Міколы Канаша і наш гісторык Міхась Чарняўскі. Спадар Канаш тады адказаў і яму: «З Віталём Губарэвічам мне давялося пазнаёміцца ў страшных умовах ГУЛАГу 45 гадоў таму ў пасёлку Інта Комі АССР на 1-м ОЛП-е. Нічым асабліва ён не адрозніваўся ад іншых зняволеных: той жа бушлат з нумарам на спіне, тая ж аблавушка з рознакаляровых кавалачкаў тканіны на галаве, засмуголеныя невядомага колеру штаны ды кароценькія абгарэлыя вайлакі на нагах. Невысокага росту, з хударлявым тварам, на якім тырчэў нос. Уражвалі хіба вялікія вочы бледна-шэрага колеру. Ён, як пасля казаў мне, хварэў на сухоты. А родам быў з Дзятлаўскага раёна, што на Гарадзеншчыне. Пісаў вершы на беларускай і расейскай мовах.

Віталь Губарэвіч, 1960-я гады

На той час я ўжо быў знаёмы з Ларысай Геніюш, якая знаходзілася тамсама, толькі на 4-м ОЛП-е, жаночым. Аднаго разу я пару Віталёвых вершаў адаслаў Ларысе. І неўзабаве атрымаў адказ, што яны яшчэ далёка не дасканалыя, але нічога — няхай піша надалей, не варта адбіваць у яго ахвоту пісаць...

Наўпрост Віталь з Ларысай не ліставаўся, а час ад часу аддаваў мне свае лісты пераважна ў вершаванай форме, каб я адаслаў ёй. Але такая перапіска між імі працягвалася нядоўга. Узніклі непаразуменні ў думках, у поглядах, разважаннях. Віталь лічыў сябе выхадцам з беднай сялянскай сям'і, а Ларысу чамусьці далучаў да мяшчанаў і да тых, што стаялі «на версе». Вядома, не меў рацыі. Па натуры ён быў добры, аднак ён у парыве злосці не ўмеў сябе стрымліваць. І ў дадатак яшчэ быў хворы.

У 1955 ці ў пачатку 1956 года — адным словам, ляжаў яшчэ снег і было зімна — на шахце № 2 забіла камбайнам нашага хлопца Міколу Граноўскага, ён быў з Шаркоўшчынскага раёна, што на Віцебшчыне. І мы, беларусы, вырашылі яго пахаваць па-Божаму. Быў гэта ўжо час «хрушчоўскай адлігі». Мікола Яцкевіч працаваў у інструменталцы шахты № 2 і дапамог цеслярам зрабіць труну й крыж. Слаўка Прыстаўка арганізаваў збор грошай, і купілі касцюм. Быў складзены й пададзены начальству лагера спіс зняволеных беларусаў з шахты № 2 (каля 20 чалавек), каб дазволілі выйсці з зоны на пахаванне. Дазвол быў дадзены. Быў там і Віталь Губарэвіч, які прачытаў над магілай свой верш «На смерць Міколы Граноўскага». А па нейкім часе яму з бетону зрабілі помнік, дзе на мармуровай дошцы выразалі надпіс. Тэкст цяпер ужо дакладна не памятаю, ведаю толькі, што ёсць словы: «Не забудзем цябе, сябра». Пахаваны ён на могілках у лесе «Сангарадка» непадалёку ад «Пцічніка». Можа, тая мясціна захавалася яшчэ й сёння?..»

Віталь Губарэвіч, Інта, 1954 г.

### Арышт

Віталь Губарэвіч нарадзіўся 3 студзеня 1926 года ў вёсцы Наваельня Дзятлаўскага раёна. Калі яму споўнілася два гады, памерла маці. Бацька Віталя спачатку працаваў псаломшчыкам у царкве, а потым, калі прыйшлі саветы, — на чыгунцы. Але аднойчы ў іх дом завіталі людзі ў цывільным з наганамі, зрабілі ў хаце вобыск, перагрэслі ўсе кнігі, але нічога крымінальнага і падазронага не знайшлі. Тым не менш бацьку Віталя Губарэвіча Міхася Губарэвіча арыштавалі. Больш сын і ўсе родныя і блізкія яго людзі, а таксама вяскоўцы ніколі Губарэвіча-старэйшага не бачылі, нават нічога не змаглі даведацца пра яго далейшы лёс.

Калі пачалася вайна, Віталь працягваў вучобу ў вячэрняй школе, а таксама падпрацоўваў на чыгунцы, каб дапамагчы сям'і. Немцы неяк запрыкмецілі на чыгунцы юнака, і хутка яго адправілі на працу ў Германію. Па іншай інфармацыі, Віталь быў арыштаваны ў Вільні, там ён знаходзіўся ў роднай сястры. Выйшаў на рынак і трапіў у аблаву, дзе яго і схапілі. У Германіі ён цяжка працаваў на адным з ваенных заводаў.

На Дзятлаўшчыну юнак вярнуўся вясной 1945 года. Адразу пачаў працаваць, а таксама працягваў вучобу ў вячэрняй школе. Тады зачытваўся творамі беларускай літаратурай, сам пісаў вершы, але нікому іх не паказваў. На радзіме шукаў аднадумцаў, сяброў, якія яго разумелі б, з якімі ён мог бы падзяліцца сваімі думкамі і планамі.

У 1946 годзе Віталь Губарэвіч становіцца сябрам Саюза вызвалення Беларусі (СВБ). Найперш упаўнаважаным СВБ на Дзятлаўшчыне. Супрацоўнікі НКУС яго часта затрымлівалі, выклікалі юнака на допыты, але стопрацэнтных доказаў знайсці не змаглі. І хоць Віталю было толькі 20 гадоў, за гэты час ён шмат бачыў і перажыў, меў пэўны жыццёвы вопыт. Але ўлады хацелі зламаць яго дух. Як жа так: бацька быў ворагам народа, сам Віталь падчас вайны знаходзіўся ў Германіі, вярнуўся дамоў і заўсёды размаўляў па-беларуску, пісаў вершы... За Віталем пастаянна сачылі. І неяк сярод сяброў СВБ знайшоўся здраднік, які іх выдаў НКУС. Сяброў арыштавалі: адных саслалі ў Сібір, іншых расстралялі. Не ўдалося толькі арыштаваць Губарэвіча. Але аднойчы такі момант здарыўся. У вячэрняй школе, дзе вучыўся Віталь, вісеў партрэт Сталіна. Неяк нехта выкалаў дыктатару вочы. Доўга шукалі вінаватага, пакуль нарэшце сын дырэктара школы не сказаў, што гэта зрабіў Губарэвіч, хаця ён да гэтай справы ніякага дачынення не меў. Хутка Віталя арыштавалі і далі яму 10 гадоў, адправіўшы ў Варкуту, а потым у Інту. Адбылося гэта ў траўні 1947 года.

У лагерах дзятлаўскаму хлопцу было невыносна цяжка, але дух юнака не зламалі. У яго пачаліся сухоты. Ад гэтай хваробы і ад цяжкай працы памiралі дзясяткі сяброў. Але Віталь трымаўся сваіх землякоў, якія разам дапамагалі адзін аднаму выжыць. Там ён пазнаёміўся з Ларысай Геніюш, перадаваў праз сяброў ёй свае вершы, спрачаўся, разважаў. Адзін з вершаў нават прысвяціў паэтцы. У ім ёсць і такія радкі:

*...Ты гамаю акордаў мілагучных*
*Напоўніла мне сэрца да краёў,*
*І вобразаў так родных, неадлучных*
*Чарга перад вачыма ўстала зноў.*
*І я за ліру ўзяўся міма волі,*
*І грозна песня загула мая,*
*Яна пяе братам маім аб волі,*
*Аб нашых родных, дарагіх краях.*
*Але не плач у песні гэтай льецца —*
*Яна гучыць, як атамана кліч,*
*Пракляццем грозным з сэрца майго рвецца,*
*Ўздымае помсты ўсенародны біч.*

### Вяртанне

На родную Бацькаўшчыну Віталь Губарэвіч вярнуўся ў 1956 годзе, тады яму было толькі 30 гадоў. У Наваельні на Дзятлаўшчыне ён здаў экзамен за курс сярэдняй школы і паступіў на фармацэўтычны факультэт Ленінградскага хіміка-фармацэўтычнага інстытута, які скончыў, атрымаўшы спецыяльнасць правізара-фармацэўта. Працаваў у аптэках вёскі Наваельня, у Навагрудку, а потым яго прызначылі на працу ў вёску Дварэц аптэкарам.

Вёсцы пашанцавала. Бо, акрамя сваёй працы, Віталь вёў актыўнае грамадскае жыццё. Ён іграў у Наваельнянскім духавым аркестры, арганізаваў тэатральны гурток у мясцовым клубе ў Дварцы. Вясковыя артысты часта паказвалі



**Віталь Губарэвіч (пасярэдзіне) з сябрамі каля аптэкі ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, 1965 г.**



**Хата ў вёсцы Наваельня Дзятлаўскага раёна, дзе жыў Віталь Губарэвіч**

пастаноўкі па творах беларускіх драматургаў. Сам Віталь выдатна іграў камедыйныя ролі, пісаў розныя вершаваныя гумарэскі на тэмы вясковага жыцця і выконваў іх на сцэне. У вольны час ён спрабаваў пісаць вершы, займаўся перакладамі гумарэсак з польскага часопіса «Шпількі», які выпісваў. Збіраў і запісваў у вёсках Дзятлаўшчыны легенды і паданні.

Але страчанае здароўе ў Германіі і 9 гадоў лагераў рана забралі ў яго жыццё. Віталя Губарэвіча не стала ў 1976 годзе. Яго пахавалі на могілках у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, дзе да сённяшніх дзён стаіць там сціплы помнічак.

### З успамінаў Міколы Грышана

У пошуках звестак пра Віталя Губарэвіча, напрыканцы 2013 года я сустрэўся з дзятлаўскім 82-гадовым паэтам, настаўнікам-пенсіянерам Мікола Грышанам, які некалі шукаў сляды Віталя Губарэвіча. Мы доўга пра яго і пра той час гутарылі.

***— Спадар Мікола, калі вы займаліся пошукамі звестак пра Віталя Губарэвіча?***

— Гэта было ў пачатку 1990-х гадоў. Я тады наведаў вёску Дварэц, бачыўся з яго другой жонкай. Калі Віталь Губарэвіч працаваў у Германіі, яму адарвала ўказальны палец на правай руцэ. Яго арыштавалі за ўдзел у Саюзе вызвалення Беларусі. Штаб арганізацыі знаходзіўся ў Навагрудку. Раскрыў арганізацыю правакатар, падасланы да іх. У раённай газеце Віталь Губарэвіч сваіх вершаў не друкаваў, відаць, яго вершы былі не для друку. У тых 1990-х гадах я напісаў і прысвяціў яму свой верш.

***— А ці пыталася ў Віталя жонка, за што ён быў арыштаваны?***

— І я такое пытанне таксама задаваў жонцы Губарэвіча. Яна пыталася ў яго, але Віталь казаў, што на допытах яго абвінавачвалі ў тым, што падчас вайны ён дапамагаў немцам у Германіі, калі быў прымусова туды вывезены. Пра Саюз вызвалення Беларусі ён нікому нічога пасля вяртання з лагераў не казаў.

У Губарэвіча тады быў пасынак — Міша Кузьміцкі. Некалі ён працаваў педагогам, быў даволі адукаваным чалавекам. Меў вышэйшую адукацыю. Пісаў вершы, друкаваўся. Але ў 1990-х гадах ён ужо не пісаў нічога, працаваў вартаўніком, бо з'ела беднага гарэлка. А цяпер у жывых іх наогул нікога ўжо няма. Людзі казалі мне тады, што вершы Кузьміцкі пісаў не сам, а гэта былі вершы Губарэвіча, якія Міша прыпісваў сабе. Але я ў гэта мала веру, бо друкаваўся Кузьміцкі ў 1960-х гадах, калі жыў Губарэвіч, а на такое Кузьміцкі не змог бы пайсці. Ды стыль вершаў Кузьміцкага не падобны на стыль вершаў Губарэвіча.

***— Ці вядома вам, што за правакатар выдаў Саюз вызвалення Беларусі і, у прыватнасці, Віталя Губарэвіча?***

— Калі ў вячэрняй школе ў Наваельні вучыўся Віталь Губарэвіч, інструктарам Дзятлаўскага райкама камсамола быў Алесь Бажко. Яны былі добра знаёмыя. Вось ён і аказаўся тым правакатарам. Справа ў тым, што пра яго як пра стукача мне распавядаў неяк былы выкладчык Гродзенскага педынстытута Браніслаў Ржэўскі (1905–1980). КДБ падаслала Бажко да Ржэўскага, калі той аднойчы быў выкліканы ў Мінск, нібы для ўдакладнення праграмы па беларускай літаратуры. Тры дні ўвіхаўся каля Ржэўскага тады Бажко, а потым змест іх размоў быў прыгаданы на допытах Ржэўскага, якія праводзілі супрацоўнікі КДБ у 1957 годзе. 25 сакавіка 1957 года Браніслава Ржэўскага асудзілі Гродзенскім абласным судом па артыкуле 72 КК БССР да 7 гадоў пазбаўлення волі. Так што і ўсім сябрам Саюза вызвалення Беларусі, у тым ліку і Віталю Губарэвічу, дасталося ад Бажко.

### Замест пастскрыптума

Вось такім быў кароткі лёс дзятлаўскага змагара Віталя Губарэвіча — беларускага патрыёта, творчага чалавека, фармацэўта. Яго жыццёвы шлях яшчэ трэба даследаваць, таму што пра такіх беларусаў мы павінны ведаць і не забываць ніколі. І яшчэ. Хачу шчыра падзякаваць настаўніцам Дварэцкай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Наталлі Ляўкевіч і Вікторы Воўкавай, а таксама сябрам гісторыка-патрыятычнага клуба «Спадчына» гэтай школы за дапамогу ў зборы матэрыялаў пра Віталя Губарэвіча.




**Помнік на магіле Віталя Губарэвіча ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна**

# Ціхаміраў: Заходнерусізм — гэта пагроза стабільнасці»

**Падзеі ва Украіне воляй-няволяй наводзяць на пытанне: а ці мажліва падобнае ў Беларусі? Якія сілы заўтра пойдуць сустракаць чужыя танкі хлебам-соллю альбо ўжо сёння рыхтуюць для гэтага ідэйную глебу? Таму варта было б згадаць паўзабытую для кагосьці, а для некага актуальную, ідэалогію заходнерусізму.**



**Даведка:**

Андрэй Ціхаміраў — гісторык і культуролаг, магістр культаразнаўства, спецыялізацыя «Усходне- і цэнтральнаеўрапейскія і постсавецкія даследаванні». Жыве і працуе ў Гродна.

Алесь КІРКЕВІЧ

Яна ўзнікла пасля паўстання 1830–1831 гадоў і сцвярджала непарыўнае братэрства рускіх, украінцаў і беларусаў. Не разглядаючы апошніх як самастойныя народы, заходнерусізм лічыў іх толькі самабытнымі адгалінаваннямі рускіх.

Наконт заходнерусізму ў Беларусі ўчора і сёння мы вырашылі пагутарыць з гісторыкам і культуролагам Андрэем ЦІХАМІРАВЫМ.

***— Заходнерусізм для Беларусі — гэта мінулае ці таксама сучаснасць?***

— Калі глядзець на апошнія 20 гадоў, то гэта хутчэй актуалізацыя мінулага. Але актуалізацыя такіх ідэй у Беларусі менавіта ў наш час — з'ява даволі ўнікальная. У іншых краінах такія ідэі ўжо састарэлі ды сталі анахранізмамі.

***— У суседніх краінах гэтыя ідэі адміралі самі сабой альбо ў выніку ціску з боку нацыянальных ідэалогіяў?***

— Гэта ўсё ж такі адбывалася разам з ліквідацыяй імперыяў. Першая сусветная вайна, і — як вынік — разбурэнне чатырох імперыяў далі падставы для ідэйнага краху гэтых светапоглядаў. Багемізм, напрыклад, перарадзіўся. Яго адэпты нават калі пісалі па-нямецку, прынялі ўжо чэхацэнтрычную перспектыву. У выпадку Латвіі прарускасць была рэакцыяй на нямецкі культурны ўплыў, якая пасля набыцця незалежнасці не пагражала латышскай самасвядомасці. Калі мы глядзім на сённяшнюю Латвію — гэта, канешне, зусім іншая сітуацыя...

***— Хто зараз ёсць апорай ідэалогіі «супрацы з імперыяй» у Беларусі: чыноўнікі, вайскоўцы, казакі, РПЦ?..***

— На маю думку, канкрэтная група грамадства, якая падтрымае Расію ў момант «Х» тут, будзе вызначаная сітуацыяй. Улічваючы аспекты глабалізацыі і ўплыву медыяў на людзей — цягам двух-трох тыдняў такую групу можна будзе мабілізаваць...

Але беларускасць у ідэйным плане ўсё адно дамінуе. Людзей, якія б вызначалі сябе як «западноруссов» падчас перапісаў насельніцтва, няма. Руская нацыянальная меншасць, якая ёсць у Беларусі, не такая відочная. Калі паглядзець на мерапрыемствы, якія праводзяць іх таварыствы, то яны не выходзяць за рамкі намагання захаваць свой этнас, нацыянальныя строі, танцы і г.д. Руская мова і так мае статус дзяржаўнай, ім няма сэнсу за яе змагацца...

***— Ці магчыма існаванне групы людзей, якія пры пэўных умовах пачнуць актыўна прасоўваць расійскія інтарэсы, напрыклад, па ўкраінскім сцэнары?***

— Выключаць гэтага мы не можам. Нават калі паглядзець на Латвію — там гэта адбываецца фактычна ў адкрыты спосаб. Падзел на грамадзян і неграмадзян спрыяе павелічэнню прарасійскіх настрояў. Ва Украіне гэта цэлыя палітычныя партыі ды арганізацыі, якія легальна існуюць ужо 20 гадоў і знаходзяцца ў прамым кантакце з РФ. Такая перспектыва ў Беларусі таксама ёсць, але пад пытаннем, як гэтыя сілы будуць выкарыстоўвацца і ў якой менавіта форме. Гэта могуць быць і адкрытыя палітычныя групы, і людзі, якія знутры будуць уплываць на ўладу, займаючы пэўныя пасады.

> Для пэўнай часткі інтэлігенцыі заходнерусізм стаў выратавальным кругам пасля краху Савецкага Саюзу

***— А ёсць у Беларусі зараз публічныя рупары заходнерусізму?***

— Так, напрыклад, сайт zapadrus.su, які так сябе і пазіцыянуе. Вакол яго гуртуюцца даволі розныя людзі. Яны легальна ладзяць публічныя канферэнцыі, дасылаюць афіцыйныя запыты ў дзяржаўныя інстанцыі, спрабуюць уплываць на вывучэнне гісторыі, а праз яе — на ідэалогію. У 1990-я гады гэта была досыць маргінальная плынь, а зараз яны ўжо ў стане ўплываць на грамадскую думку.

Больш за тое, яны прайшлі ў тыя сферы грамадскага жыцця, якія могуць паўплываць на дзеянні ўлады. Гэты і навучальныя ўстановы, і дзяржаўная прэса...

***— Гэта ўсё адбываецца спантанна альбо пры падтрымцы з Расіі?***

— Ніхто афіцыйна вам не скажа, што кагосьці падтрымлівае. Іншае пытанне: навошта гэта расійскаму боку, улічваючы ўзровень адкрытасці беларускіх уладаў?.. Для кагосьці, безумоўна, гэта банальна грошы і кар'ерызм. Частка гэтых людзей — былыя камуністы. Чалавек, напрыклад, зараз займаецца рэлігійнай праблематыкай, праваслаўем, а раней пісаў пра перспектывы росту камсамолу. Такіх прыкладаў багата.

Для пэўнай часткі інтэлігенцыі заходнерусізм стаў выратавальным кругам пасля краху Савецкага Саюзу. Асабліва для тых, хто не меў нейкай «паралельнай» самасвядомасці.

Шмат хто тады пісаў адно, чытаў другое, а ў шуфляду пісаў трэцяе. Пасля краху Саюзу яны мелі з чым застацца. А тыя, хто жыў па адной лініі — партыйнай, вымушаны былі шукаць новую тоеснасць. Калі знікла патрэба ў рытуальных спасылках на марксізм, яны пачалі рытуальна спасылацца на Міхаіла Каяловіча.

***— Заходнерусізм укладаецца ў сучасную афіцыйную ідэалогію беларускіх уладаў?***

— Прывяду толькі адзін прыклад. Не будзем забывацца, што заходнерусізм — антысеміцкая ідэалогія. Калі прымаць яе поўнасцю, разбураецца міф аб міжнацыянальнай ды міжрэлігійнай згодзе. Таму гэта можа несці пагрозу стабільнасці ў краіне, стварыць этнічную і рэлігійную напружанасць. Таму самі адкажыце на гэтае пытанне.

Гадоў 15–20 таму ўсё было прасцей: з аднаго боку — беларускамоўныя «бэнээфаўцы», з іншага — зацятыя рускамоўныя камуністы альбо РНЕ-шнікі. Зараз мы сустракаемся з рускамоўным беларускім нацыяналізмам, з крытыкай Расіі — па-руску (творы Анатоля Тараса таму прыклад). Аб чым гэта сведчыць?

Гэта сведчыць, што беларускі нацыяналізм пераходзіць з этнічнай фазы ў грамадзянскую. І для значнай часткі грамадства, зразумела, руская з'яўляецца асноўнай моваю, і яны не хочуць ад яе адмаўляцца. І няма ніякіх падставаў на гэтай аснове вінаваціць гэтых людзей у антыбеларускасці.

Калі вярнуцца да Украіны, то большасць СМІ там — рускамоўныя, але з вельмі выразнай украінацэнтрычнай пазіцыяй. У Малдове таксама руская мова часта выступае як спосаб данясення ідэяў, а не як ідэалогія. Гэта ўспрымаецца як сусветная мова — французская ці англійская. Мова мае вельмі важны сімвалічны патэнцыял, але для беларускай сітуацыі не ўсё так адназначна і проста. Таму нават рускамоўны патрыятызм і беларусацэнтрызм для нас — прагрэсіўная з'ява.

# Прабіць акно ў свет

**Адсутнасць дзяржаўнай палітыкі, свядома скіраванай на пашырэнне кола адукаваных носьбітаў спрадвечнай мовы беларусаў, непазбежна прымушае думаць пра тое, каб кола гэтых носьбітаў узнікала і пашыралася хоць бы за межамі сённяшняй Беларусі.**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ




Такіх прыкладаў нямала: не-не ды ў прэсе з'яўляюцца паведамленні пра тых энтузіястаў, якія на добрым узроўні авалодалі беларускай моваю, жывучы ў Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі, Злучаных Штатах Амерыкі, Расіі або нават у Іспаніі або Бразіліі. Разумею пры гэтым, з якімі цяжкасцямі даводзіцца сутыкацца гэтым энтузіястам.

> **«Англійска-беларускі слоўнік» Тамары Сушы можна лічыць значным крокам у развіцці іншамоўна-беларускай лексікаграфіі**

Эфектыўнае вывучэнне беларускай мовы і нармальнае карыстанне ёю цяжка ўявіць сабе без якасных слоўнікаў, у тым ліку перакладных. Каля трох дзясяткаў гадоў таму мне давялося на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» акцэнтаваць увагу чытачоў на адсутнасці ў беларускай лексікаграфіі большасці абсалютна неабходных для мовы, якая сябе паважае, слоўнікаў такога кшталту. У выніку за гэтыя гады на беларускім кніжным рынку з'явіліся падрыхтаваны намаганнямі беларускай эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы «Ангельска-беларускі слоўнік», даведзеныя да ладу пад кіраўніцтвам Мікалая Кур'янкі нямецка-беларускі і беларуска-нямецкі слоўнікі, а таксама «Польска-беларускі слоўнік» Яўгеніі Волкавай і Валянціны Авілавай. Арыгінальнай і непаўторнай задумай вылучаецца «Ідыш-беларускі слоўнік» Алеся Астравуха; наспела неабходнасць дапрацаваць і перавыдаць створаны яшчэ напрыканцы 1970-х гадоў «Украінска-беларускі слоўнік» Валянціны Лемцюговай.

Яшчэ ў канцы 1980-х гадоў група энтузіястычна настроеных лінгвістаў з тагачаснага Мінскага дзяржпедынстытута замежных моў на чале з Тамарай Сушай, Аленай Шчукай і Аленай Таболіч пачала складаць грунтоўны «Англійска-беларускі слоўнік». Нарэшце напрыканцы ажно 2013 года слоўнік усё-такі ўбачыў свет у дзяржаўным выдавецтве «Вышэйшая школа». У друкаванай версіі слоўнік змяшчае каля 60 000 слоў і ўстойлівых словазлучэнняў англійскай мовы з іх беларускімі адпаведнікамі і шматлікімі прыкладамі ўжывання. Трэба мець на ўвазе, што прыкладна такі самы аб'ём мае і вышэйзгаданы «Ангельска-беларускі слоўнік», які быў створаны аўтарскім калектывам на аснове рукапісаў Валянціны Пашкевіч і выдадзены ў прыватным выдавецтве Змітра Коласа ў 2006 годзе. Таму, натуральна, узнікае пытанне: у чым палягаюць галоўныя адрозненні паміж гэтымі дзвюма капітальнымі лексікаграфічнымі працамі?

Па-першае, калі англамоўная частка слоўніка Валянціны Пашкевіч грунтуецца на амерыканскім варыянце сучаснай англійскай мовы, то аўтарскі калектыў на чале з Тамарай Сушай узяў за аснову брытанскі варыянт гэтай мовы (хоць таксама не ігнаруе і найбольш ужывальных «амерыканізмаў»). Адсюль вынікае розніца ў фармаванні асноўнага корпуса слоўніка, у падборы фразеалагізмаў і, натуральна, у падачы фанетычнай транскрыпцыі для слоў левай часткі абодвух слоўнікаў. Па-другое, «эміграцыйны» слоўнік натуральным чынам выкарыстоўвае класічны правапіс беларускіх слоў (т. зв. «тарашкевіцу»), у той час як правапіс правай часткі новага слоўніка адпавядае арфаграфічным нормам, афіцыйна ўведзеным у Беларусі з 2010 года. Па-трэцяе, калі ў слоўніку Тамары Сушы кідаецца ў вочы большая сістэмнасць у дэталёвай распрацоўцы слоўнікавых артыкулаў і стылістычнай прыналежнасці беларускіх адпаведнікаў англійскіх агульных слоў і выразаў, то слоўнік Валянціны Пашкевіч выйграе тым, што мае больш натуральны выбар фразеалагічных словазлучэнняў, а ў дадатку — добра распрацаваны спіс геаграфічных назваў. У абодвух слоўніках, на жаль, адсутнічаюць раздзелы з расшыфроўкай частаўжывальных англійскіх і амерыканскіх скарачэнняў.

Аналізуючы асобныя артыкулы новага слоўніка, можна, вядома, знайсці пэўныя спрэчныя моманты — перш за ўсё ў расстаноўцы, ці іерархізацыі, значэнняў слоў унутры іх. Таксама заўважаецца пэўны адыход ад строгай сістэмнасці ў падачы свабодных словазлучэнняў і фразеалагізмаў.

Натуральна, што праца такога аб'ёму не можа быць паводле вызначэння абсалютна бездакорнай і не патрабаваць пэўнага ўдасканальвання пры магчымых перавыданнях. Але на сёння «Англійска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй Тамары Сушы, бясспрэчна, можна лічыць значным крокам у развіцці іншамоўна-беларускай лексікаграфіі.

Тым больш, што для нашай рэальнай лінгвакультурнай сітуацыі вельмі важным з'яўляецца стварэнне перакладных слоў з першай беларускай часткай. Найвялікшая патрэба існуе ў стварэнні вялікага беларуска-англійскага слоўніка, які б мог прабіць для нашай мовы ладнае акно ў шырокі свет. Хто сфармуе аўтарскі калектыў такога слоўніка і ажыццявіць гэтую задуму? Пытанне застаецца адкрытым.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 367

Падпісана да друку 21.03.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.